ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (111)
чэрвень 2020 год

CATHOLICNEWS.BY

# Увага! Заканчваецца падпіска на другое паўгоддзе 2020 года!

## У Глыбокім памаліліся за ахвяраў польска-савецкай вайны 1920 года


Стар. 8

## “Сённяшні свет патрабуе Божага шаленства”: прэзбітэрый віцебскага касцёла павялічыўся на двух святароў


Стар. 9

**Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.**

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Кошт падпіскі**
на месяц – 1руб. 10 кап.
на тры месяцы – 3 руб. 30 кап.
на паўгода – 6 руб. 60 кап.

**Дарагія браты і сёстры!**

Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.



# Папа Францішак прызначыў новага Апостальскага нунцыя ў Беларусі

**Святы Айцец прызначыў новым Апостальскім нунцыем у Беларусі харвацкага іерарха арцыбіскупа Антэ Ёзіча. Пра гэта паведамілі 21 мая ў Ватыкане.**

Антэ Ёзіч заменіць на пасадзе кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва Святога Пасаду ў Беларусі венгерскага арцыбіскупа Габара Пінтэра.

Антэ Ёзіч нарадзіўся 16 студзеня 1967 года ў горадзе Трыль. Святарскае пасвячэнне атрымаў 28 чэрвеня 1992 года ў Спліцка-Макарскай архідыяцэзіі. У 1995 г. пачаў рыхтавацца да дыпламатычнай службы ў Папскай касцельнай акадэміі. З 1999 года працаваў у Апостальскай нунцыятуры ў Індыі. Потым, з 2003 года па 2009 год, быў сакратаром нунцыятуры ў Расіі. У 2009 годзе стаў дарадцам нунцыятуры на Філіпінах.

2 лютага 2019 года Папа прызначыў яго Апостальскім нунцыем у Кот-д'Івуары і тытулярным арцыбіскупам Цысы. Біскупскае пасвячэнне яму павінен быў удзяліць 1 мая 2019 года кардынал Дзяржсакратар П'етра Паралін. Аднак 7 красавіка 2019 года іерарх трапіў у аўтамабільную аварыю каля Спліта, пасля якой апынуўся ў бальніцы ў крытычным стане.

22 студзеня 2020 года арцыбіскуп Ёзіч сустрэўся з Папам Францішкам. Яго біскупская сакра павінна была адбыцца 21 сакавіка 2020 года ў базыліцы св. Пятра, аднак яе перанеслі па прычыне пандэміі COVID-19.

Нагадаем, што арцыбіскуп Ёзіч стаў другім харвацкім іерархам на пасадзе Апостальскага нунцыя ў Беларусі. З 15 верасня 2004 года па 15 ліпеня 2011 года дыпламатычнае прадстаўніцтва Святога Пасаду ў нашай краіне ўзначальваў арцыбіскуп Марцін Відавіч. Цікава, што ён таксама належаў да Спліцка-Макарскай архідыяцэзіі.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# У Ватыкане выздаравеў апошні хворы на каранавірус

**Сярод супрацоўнікаў структур Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан больш няма хворых з каранавірусам, – паведаміў кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы.**



"Сёння раніцай быў атрыманы негатыўнай вынік тэсту на COVID-19 у апошняй асобы, якая на працягу гэтых тыдняў была вызначана як заражаная каранавірусам", – паінфармаваў 6 чэрвеня Матэа Бруні.

У перыяд вострай фазы пандэміі каранавірус быў выяўлены ў дванаццаці ватыканскіх службоўцаў. Апошні выпадак заражэння датаваўся 6 мая.

Святым Пасадам і Губернататарам Дзяржавы Ватыкан былі прыняты строгія меры для абароны здароўя супрацоўнікаў і людзей, якія наведваюць структуры. 9 сакавіка закрыліся Ватыканскія музеі, Папскія вілы ў Кастэль-Гандольфа і іншыя культурныя цэнтры. На наступны дзень былі закрытыя для пілігрымаў і турыстаў плошча і базыліка св. Пятра, іншыя Папскія базылікі ў Рыме. Закрытымі заставаліся аддзяленне Ватыканскай пошты, ватыканскія кнігарні і фотаатэлье, сталовая для супрацоўнікаў.

Каб прадухіліць распаўсюджванне інфекцыі, былі адкладзены візіты Ad limina, аўдыенцыі і сустрэчы. Агульныя аўдыенцыі па серадах і марыйная малітва па нядзелях праходзілі ў фармаце відэатрансляцый. Без фізічнай прысутнасці вернікаў адбыліся і галоўныя цэлебрацыі літургічнага года – Пасхальны Трыдуум і Вялікдзень.

Дыкастэрыі Апостальскай Сталіцы працягвалі сваю дзейнасць, захоўваючы ўсе неабходныя санітарныя нормы. Супрацоўнікі, фізічная прысутнасць якіх у офісе не з'яўляецца абавязковай, былі пераведзены на працу з дому.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Пандэмія, якая забіла больш за каранавірус! 10 мільёнаў абортаў падчас каранціну

**Сёння галоўнай прычынай смерці сярод насельніцтва ва ўсім свеце з'яўляецца аборт...**



На падставе даследаванняў Worldometer па колькасці абортаў у 2020 годзе былі зроблены жудасныя высновы: 3484800 абортаў за месяц. Гэта значыць, у перыяд з сакавіка па май было забіта больш за 10 мільёнаў ненароджаных дзяцей, паведамляе slovoproslovo.info.

За апошнія некалькі месяцаў у нас была магчымасць назіраць наступную сітуацыю: людзей прымушаюць заставацца ў сваіх дамах, школы і цэрквы закрытыя, лепшыя "розумы" свету працуюць над стварэннем вакцыны, сусветныя лідары не шкадуюць рэсурсаў, каб спыніць вірус.

У гэты складаны час большасць медыцынскіх установаў зачыненыя, але гэта не распаўсюджваецца на клінікі, якія займаюцца абортамі: яны працягваюць працаваць упэўнена, падвяргаючы небяспецы жанчын і забіваючы ненароджаных дзяцей. У выніку аборт з'яўляецца асноўнай прычынай смерці ў ЗША і ў цэлым свеце.

Ці ўсведамляе чалавецтва жах забойства ўнікальных, жывых дзяцей са сваім асобным ДНК і біццём сэрца? Чаму б не паказаць нашу гуманнасць да ненароджанага жыцця таксама, як мы зрабілі з хворымі на каранавірус?!



Шаноўнай сястры Фаўстыне Цыдзік
Генеральнай настаяцельніцы Кангрэгацыі Сясцёр Маці Міласэрнасці
і ўсёй яе сям'і выказваем шчырыя словы спачування і жалю
па прычыне адыходу да дому Пана
любай матулі Юзэфы.

***Падапечныя з Дому міласэрнасці ў Каменцы (Гродзенская дыяцэзія)***

# Агульнабеларускае святкаванне Будслаўскага фэсту перанесена на пазнейшы час

**Паведамленне з 78 Надзвычайнага пленарнага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі**



25 мая праз пандэмію каранавірусу Пленарнае пасяджэнне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ўпершыню адбылося ў анлайн-фармаце ў рэжыме відэаканферэнцыі.

У пасяджэнні ўдзельнічалі ўсе біскупы ККББ і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Ян Сяргей Гаек MIC.

**1.** Уступнае слова Старшыні ККББ арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча было скіравана не толькі да членаў Канферэнцыі, але і да ўсіх людзей добрай волі. Арцыбіскуп выказаў спачуванні ўсім жыхарам Беларусі, якіх непасрэдна закранула эпідэмія, асаблівым чынам сем'ям і блізкім спачылых ад каранавірусу і звязаных з ім хваробаў. Арцыбіскуп пажадаў здароўя хворым і выказаў падзяку медыкам і ўсім, хто прычыняецца да таго, каб ратаваць нашу краіну і народ ад хваробы.

**2.** Біскупы прыйшлі да высновы пра неабходнасць працягнуць час для выканання вернікамі касцельнага наказу адносна святой Камуніі ў Велікодны перыяд, а таксама абавязку прынамсі раз на год прыступіць да споведзі. Выканаць гэты духоўны абавязак вернікі дыяцэзій у Беларусі сёлета могуць да 15 жніўня. Біскупы заахвочваюць усіх святароў і вернікаў выкарыстаць гэты час на паяднанне з Богам і прыняцце Яго Цела як умацаванне для свайго духа і цела ў складаны час пандэміі з захаваннем усіх нормаў і рэкамендацый Міністэрства аховы здароўя Беларусі і Сусветнай арганізацыі здароўя (СААЗ).

**3.** Біскупы абмеркавалі арганізацыю святкавання ў гэтым годзе ўрачыстасці Божага Цела ва ўмовах пандэміі каранавірусу і прынялі рашэнне не праводзіць агульнагарадскіх і парафіяльных працэсій па вуліцах нашых гарадоў і вёсак. Біскупы згадзіліся на тое, каб, па разважлівым меркаванні пробашчаў і пасля абавязковай кансультацыі з дыяцэзіяльнымі курыямі, адбываліся парафіяльныя працэсіі (па магчымасці – на прыкасцельнай тэрыторыі або ў касцёле), з захаваннем рэкамендаваных Міністэрствам аховы здароўя Беларусі і СААЗ санітарных нормаў.

**4.** Чальцамі ККББ было прынята рашэнне адносна святкавання Будслаўскага фэсту ва ўмовах пандэміі каранавірусу:

**4.1.** Літургічная ўрачыстасць Маці Божай Будслаўскай з выкарыстаннем літургічных тэкстаў Брэвіярыя і тэкстаў святой Імшы ў парафіях Касцёла ў Беларусі адбудзецца без зменаў 2 ліпеня;

**4.2.** У Будславе ў гэты дзень адбудзецца парафіяльная ўрачыстасць;

**4.3.** Агульнабеларускае святкаванне фэсту разам з усімі звязанымі мерапрыемствамі (пілігрымкамі і г.д) з запланаванай даты 3–4 ліпеня пераносіцца на пазнейшы час.

**5.** Біскупы пазнаёміліся і зацвердзілі пераклад тэкстаў фармуляру святой Імшы, Літургіі гадзінаў і літургічных чытанняў з успаміну святой Фаўстыны Кавальскай, панны, які Папа Францішак 18 мая 2020 года ўнёс у Агульны Рымскі каляндар, што дазваляе адзначаць гэты ўспамін у паўсюдным Касцёле. Пераклад згаданых тэкстаў быў падрыхтаваны Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў ККББ на чале з ксяндзомканонікам Янам Крэмісам.

*catholic.by*

# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заяўляе пра маральную недапушчальнасць штучнага апладнення

**Зварот да католікаў і ўсіх людзей добрай волі ў Беларусі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча – Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі**

Дарагія браты і сёстры! У гэты цяжкі час, калі мы перажываем пандэмію каранавірусу, існуе яшчэ адна пагроза для чалавечага жыцця. Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 2020 года "Аб сацыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян", між іншым, прадугледжвае першую бясплатную спробу ЭКА (экстракарпаральнага апладнення).

Гэта азначае, што грахоўную працэдуру, якая супярэчыць Святому Пісанню і маральнаму вучэнню Касцёла, плануецца фінансаваць таксама за кошт падаткаў вернікаў.

Каталіцкі Касцёл у Беларусі ўжо выказваўся ў лютым 2019 года на тэму экстракарпаральнага апладнення як амаральнай працэдуры, якая прыніжае годнасць чалавечай асобы і стварае пагрозу Божаму дару жыцця.



Мы не можам не выказаць пазіцыі Касцёла, калі пад пагрозай знаходзіцца натуральны, закладзены Богам парадак рэчаў, асабліва калі гэта датычыцца чалавечага жыцця. Касцёл ніколі не ставіўся да чалавека як да "біялагічнага матэрыялу", нягледзячы на тое, колькі часу прайшло пасля яго зачацця або нараджэння. Як каштоўнасць кожнага зачатага жыцця, так і святасць акту зачацця заўсёды знаходзіліся ў аснове хрысціянскага маральнага вучэння, бо гаворка ідзе пра павагу да святога дару саўдзелу чалавека – мужа і жонкі – у вялікай справе Бога Стваральніка.

Разумеючы многія цяжкасці, боль і выпрабаванні, праз якія праходзіць сучасная сям'я, Касцёл, тым не менш, імкнецца нагадаць пра нязменныя праўды, аб'яўленыя ў вучэнні Езуса Хрыста і апостальскай Традыцыі.

Зачацце, што адбываецца па-за сужэнскім актам, маніпуляцыі з эмбрыёнамі, іх крыякансервацыя і знаходжанне ў "замарожаным" стане, банкі жаночых і мужчынскіх палавых клетак, сурагатнае мацярынства – усё, што суправаджае і з'яўляецца часткай працэдуры штучнага апладнення, не можа пакінуць нас абыякавымі, паколькі маральна недапушчальнае.

Касцёл занепакоены таксама пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь № 124 "Аб пытаннях прымянення дапаможных рэпрадукцыйных тэхналогій", апублікаванай 13 мая 2020 года, у якой гаворка ідзе пра пашырэнне практыкі штучнага апладнення. Цяпер зацяжарыць з дапамогай ЭКА можа адзінокая здаровая жанчына, якая не мае палавога партнёра, што, несумненна, ставіць пад пагрозу існаванне інстытута сям'і, нівелюе каштоўнасць бацькоўства, пазбаўляе дзіця права на абодвух бацькоў і паўнавартасную сям'ю. Такая сітуацыя робіць жанчыну і дзіця больш уразлівымі ў эканамічным і сацыяльным планах, ставячы пад пагрозу паўнавартаснае развіццё ў будучыні.

У гэты час, калі каштоўнасць чалавечага жыцця і сям'я знаходзяцца пад пагрозай, Касцёл заклікае сваіх вернікаў і ўсіх людзей добрай волі да актыўнай малітоўнай падтрымкі цывілізацыі жыцця.

За святым Янам Паўлам II, чый 100-гадовы юбілей мы адзначаем, я паўтараю заклік пра неабходнасць малітвы ў абарону жыцця: "Неадкладна неабходная вялікая малітва за жыццё, якая ідзе праз увесь свет" (Энцыкліка Evangelium Vitæ, 100), і звяртаюся да святароў, кансэкраваных асобаў і свецкіх вернікаў з заклікам да арганізацыі ў гэты час асаблівых малітоўных акцый з мэтай перапрашэння Бога за ўсе грахі супраць жыцця і сям'і, якія адбываюцца сёння ў Беларусі, і прадухілення планаў штучнай пракрэацыі, якія супярэчаць Божаму Закону і хрысціянскай маралі.

*catholic.by*

# 50 гадоў *Ordo Virginum*:

## больш чым 5000 кансэкраваных жанчын у свеце

**На сённяшні дзень у свеце існуе больш чым 5000 кансэкраваных дзеў, якія штодзённа служаць Хрысту і Касцёлу. *Ordo Virginum* з'яўляецца таксама формай кансэкраванага жыцця, якая пасля стагоддзяў зноў была прапанавана Касцёлу Папам Паўлам VI і якой сёлета спаўняецца пяцьдзясят гадоўаднаўлення: 31 мая 1970 года Святая Кангрэгацыя Божага Культу выдала новы *Абрад кансэкрацыі Дзеў*.**



Навіна, якая на самай справе бярэ свой пачатак з гісторыі: ужо ў апостальскія часы ў хрысціянскіх супольнасцях прысутнічалі кансэкраваныя дзевы. Паводле сайта *ordovirginum.org*, нягледзячы на тое, што інстытут кансэкраваных дзеў адрадзіўся зусім нядаўна, "гэтае пакліканне распаўсюдзілася па ўсім свеце: з 1970 года па сённяшні дзень колькасць кансэкраваных дзеў на ўсіх кантынентах вырасла да 5000".

Таксама і ў нашай дыяцэзіі нясуць сваё служэнне дзве дзевы, кансэкраваныя паводле *Ordo Virginum*. Гэта с. Дар'я Галубкова OV, якая працуе ў Карытас Віцебскай дыяцэзіі і парафіі Св. Уладзіслава ў Віцебску, і с. Ірына Агнешка Гусарэвіч OV, каторая нясе паслугу ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску.

Дзевы, што атрымліваюць кансэкрацыю, застаюцца ў дыяцэзіі, з каторай паходзяць і ў каторай атрымалі гэтае спецыяльнае пакліканне і прайшлі шлях фармацыі перад кансэкрацыяй. Жыццё і служэнне кансэкраваных дзеў павінна выражаць любоў і вернасць, з якой Бог любіць свой народ. Яны не носяць ніякіх знешніх знакаў, акрамя пярсцёнка, што даецца ім падчас абраду кансэкрацыі. Яны не маюць абавязку жыць у рэлігійнай супольнасці, аднак часам здараецца, што такія супольнасці могуць спантанна нараджацца.

Адной з іх характэрных рысаў з'яўляецца служэнне ў дыяцэзіі, дзе развіваецца і выражаецца іх спецыяльнае пакліканне. Як падкрэслівае сайт *ordovirginum.org*, праца з'яўляецца асноўнай часткай жыцця кансэкраваных дзеў. Яны ўтрымліваюць сябе ўласным заробкам. Менавіта таму сярод абавязкаў, якія яны маюць, ёсць неабходнасць "пастаянна развіваць сваю кампетэнцыю і прафесійнасць". Кансэкраваныя дзевы ў залежнасці ад сваіх магчымасцяў асаблівым чынам падзяляюць "прыхільнасць Касцёла да бедных, адкінутых і тых, хто пакутуе".

Урачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю *Ordo Virginum*, павінны былі стаць галоўным момантам Трэцяга міжнароднага спаткання, скліканага Ватыканскай Кангрэгацыяй для Інстытутаў кансэкраванага жыцця і Супольнасцяў апостальскага жыцця, і меліся адбыцца з 28 па 31 мая ў Рыме. У якасці ўдзельнікаў было зарэгістравана больш за 700 кансэкраваных жанчын, біскупаў і дэлегатаў з 61 краіны, аднак праз пандэмію каранавірусу спатканне адклалі. Па словах кардынала Жазэ Радрыгеса Карбала, OFM, прэфекта Кангрэгацыі для Інстытутаў кансэкраванага жыцця і Супольнасцяў апостальскага жыцця, урачыстасці, прысвечаныя святкаванню 50-годдзю *Ordo Virginum,* адбудуцца, як толькі гэта дазволяць санітарныя ўмовы.

З нагоды 50-цігоддзя выдання новага *Абраду кансэкрацыі Дзеў* Святы Айцец Францішак 31 мая накіраваў Ліст да кансэкраваных дзеў, у якім заклікаў не тушыць свайго паклікання. "Вы пакліканыя не па вашых заслугах, а па міласэрнасці Божай, каб у вашым існаванні зззяла аблічча Касцёла, Нявесты Хрыста, якая з'яўляецца дзевай. Нягледзячы на тое, што Касцёл складаецца з грэшнікаў, ён захоўвае веру, зачынае і дае магчымасць нараджацца новаму чалавецтву".

Папа Францішак заклікаў кансэкраваных дзеў "дапамагаць Касцёлу любіць бедных, распазнаваць матэрыяльную і духоўную беднасць, дапамагаць больш кволым і безабаронным, тым, хто пакутуе ад фізічных і псіхічных захворванняў, малым і састарэлым людзям, а таксама тым, хто рызыкуе быць адкінутым, як звычайнае смецце.

Будзьце жанчынамі міласэрнасці, спецыялістамі па чалавечнасці. Жанчынамі, якія вераць "у рэвалюцыйную моц пяшчоты і ласкі". Праз вашую лагоднасць (Фл 4.5) будуйце сапраўдныя адносіны... Пазбягайце спакусы балбатні і плётак. Прааўляйце мудрасць, знаходлівасць і аўтарытэт міласэрнасці, каб супрацьстаяць фанафэрыстасці і прадухіліць злоўжыванне ўладай".

*Кс. Аляксей Ляшко*

# Молитва во время болезни

Телесные заболевания, вне зависимости от хронической или острой формы, оказывают воздействие на нас, отвлекая и опустошая, что отдаляет нас от повседневной жизни, в том числе и от молитвы. Не только боль, но и другие неудобства и усталость истощают наши физические ресурсы, а также создают напряжение внутренних ресурсов – наших эмоций, способности мыслить и духовной сосредоточенности.

И все же мы особо нуждаемся в молитве во время физических страданий. Будучи больными или травмированными, мы склонны совершать ошибки, возвращаться к незрелому поведению из-за подавленных эмоций, не слушаем свой внутренний голос и впадаем в отчаяние. В такие моменты нам важно крепко держаться молитвы, а не отказываться от нее.

Как человек, который может стать недееспособным от головной боли из-за синусита, я знаю, насколько мы не склонны к молитве, когда чувствуем себя плохо. Поэтому молитва должна быть простой, короткой и конкретной. Почему бы не использовать игнатианскую молитву просмотра дня в период болезни?

**Шаг 1**. Посмотрите на себя в присутствии Бога в лучах Его любящего взора. Я нашла, что мне полезно сесть на кровати и вместо того, чтобы жалеть себя, представить, что Бог смотрит на меня с сочувствием, как родитель смотрит на заболевшего ребенка. Я капризничаю, плачу или хнычу, если мне так хочется, и молюсь, произнося что-то вроде: "Господи, мне так плохо!" Это может звучать как жалость к себе, но когда эти слова направлены к Богу, они становятся выражением веры в заботу Бога о нас.

**Шаг 2.** Вспомнить одно яркое, хорошее событие, произошедшее за последние сутки. Когда мы чувствуем себя ужасно, у нас появляется соблазн видеть самое отвратительное, что есть в нашей жизни. Это то, что хочет от нас враг нашей человеческой природы, – погрузиться в тотальный негатив. Но вчера солнце освещало вашу комнату, или у вас был один или даже несколько моментов облегчения, или другой человек сделал вам что-то доброе, или.... Ваша память о хорошем – вот оружие против отчаяния. Подумайте о хорошем, и скажите: "Благодарю, Господи. Я знаю, что чудо, красота и доброта продолжают существовать".

**Шаг 3**. Попросите Бога показать вам то, что вы можете улучшить. Я говорю "улучшить", потому что это позволяет не сваливать на себя лавину осуждения, пока ты страдаешь. И Иисус дал явно понять, что болезнь – не от Бога, который воздает нам за наши грехи. Если вы помните замечание, сделанное в раздражении члену вашей семьи, вы можете определить это как грех, и поступить лучше. Но попросите Бога показать вам все, что в ваших силах, что может вам помочь. Вы пытаетесь сделать больше, чем позволяет ваше тело, и это вызывает у вас раздражение, гнев и разочарование? Вы отказались от помощи, предлагаемой семьей, друзьями и коллегами? Поможет ли вам, если взамен чтения посланий апостола Павла вы проведете несколько дней с Псалмами? Не отдохнете ли вы лучше, если отключите электронную почту и социальные сети за два часа до сна? С другой стороны, ваше "улучшение" может быть таким же простым, как и повторение фразы "Это не мое дело" в течение дня, потому что вы склонны думать, что должны все исправить и испытываете чувство вины, если не видите результатов.

**Шаг 4**. Планировать завтрашний день. Вас снова ждет медицинская процедура или длинная очередь к физиотерапевту, или рассмотрение медицинской документации. Взгляните честно на проблемы, или, если проще, на конкретный вызов – подойдите и отдайте Богу, прося о конкретной помощи.

**Шаг 5**. Благодарите Господа за божественную любовь, которая окружает и поддерживает вас, каким бы образом она ни проявлялась. Иногда это сознательное усилие вопреки чувству, потому что ты не ощущаешь себя любимым. Вы можете полагать, что Бог игнорирует или забыл о вашей ситуации. Но попробуйте сказать: "Благодарю. Я верю, что Ты меня любишь; помоги моему неверию".

*Перевод: Вероника Ржеутская, jesuit.ru*



# Второй дом: как монахини из Бреста строят католический детский сад

**Монахини из католической Конгрегации кармелиток младенца Иисуса живут в Бресте уже больше 20 лет. Все эти годы сестры занимаются катехизацией детей в местных приходах. Настоятельница общины Татьяна Касабуцкая рассказала корреспонденту портала Sputnik.by Артему Кирьянову, кто помогает в строительстве детского сада и как поменяла планы пандемия.**

**В разновозрастную группу сестры принимают детей от 3 до 7 лет. Занятия начнутся уже в нынешнем сентябре.**



Помыть машину, прополоть грядку – все обязаности лежат на четырех сестрах *Фото Sputnik*

## "Это наша харизма"

Еще до того как началась стройка, брестские сестры работали с детьми. В основном, в рамках катехизации в брестских католических приходах. Молитвы, заповеди, участие в Мессе – почти три десятилетия монахини посвятили воспитанию подрастающего поколения.

"В Беларуси у нас есть монастыри в Адамовичах под Гродно, в Гудогае. И везде наши сестры занимаются детьми дошкольного возраста. В Польше при наших обителях тоже есть дошкольные учреждения. Это типичная для нас деятельность, это наша харизма", – объясняет настоятельница брестской общины Татьяна Касабуцкая.

В Бресте все началось с домашней катехизации по субботам. Детишек приглашали в обитель, где каждую неделю сестры проводили для них занятия. При этом заинтересованность родителей, говорит сестра Татьяна, поражала. Всего на три часа ребят привозили со всех районов города.

"Так они к нам ходили-ходили, а мы постепенно увеличивали время. Дети стали проводить у нас целый день. И тогда пришла идея: а давайте детский сад откроем. Все-таки у нас только одна комната, а деткам нужны совершенно другие условия", – вспоминает собеседница Sputnik.

## Как по маслу

Буквально через неделю после того, как идею вынесли на совет сестер, на продажу выставили часть дома по соседству. Это было в прошлом сентябре. С того момента сестры начали закупать стройматериалы. Но активные работы начались лишь этой весной. И всего за два месяца, признаются сестры, сделано столько, что даже не верится.

"С рабочими очень повезло. Есть у нас прихожанин Станислав – он все контролирует. Сам находит рабочих, сам проверяет работу. Мы-то в этом не так понимаем. Другие прихожане помогают, как могут. Кто-то электрикой занимался, кто-то крышу крыл. Все нашлись, все подключились", – говорит сестра Татьяна.

Участок перед домом расчистили под большую детскую площадку. Не так давно в монастырь приехала четвертая насельница – сестра Ирина. Обязанности перераспределили, и теперь монахини могут посвящать больше своего времени стройке.

"Столько хлама отсюда вывезли, сожгли… С соседкой по участку тоже повезло. Она говорит, что дети ей мешать не будут. Мы предлагали высокий забор поставить. Но пока договорились, что это не нужно", – добавляет собеседница.

С серьезными проблемами за время строительства сестры не столкнулись. Наоборот, говорят в монастыре, городские власти подсказывали, как сделать лучше и правильнее. Консультировали по санитарным нормам: все-таки здание было жилым, и при переоборудовании под садик нужно соблюсти каждую мелочь.

"Наш отец-основатель говорил, что кармелитки должны ехать на восток и там служить. Видимо, мы в этой харизме и работаем, раз нам ничто не мешает. А он, наверное, теперь там, на небе, за нас радуется", – замечает сестра Татьяна.

## Петрушка в помощь

Настоятельница брестского монастыря признается: сложно сказать, сколько денег уйдет на строительство детского сада. Общине жертвуют обычные прихожане, они же помогают в работе. Еще до начала стройки кармелитки лично объехали несколько белорусских и польских приходов.

"Были такие мнения: а что это, а как это будет, да ничего не получится. Но по реакции людей видно, что это нужное дело. В Адамовичах под Гродно так интересовались, так спрашивали! Не удивлюсь, если и там когда-нибудь будет детский сад на триста детей с бассейном", – шутит сестра Татьяна.

Но теперь из-за эпидемии поездки стали невозможны. Монахини из польских кармелитских монастырей уже приготовили помощь для брестского детского сада: шкафчики, игрушки, канцелярию. Однако забрать их пока не получается.

"Мы рады любой помощи. Даже аккаунт в Инстаграме зарегистрировали. И люди помогают – кто чем может. Одна женщина постоянно нам свежую петрушку приносит. А однажды прямо из-под ворот тачку песка украли. В общем, всякое бывает. Наверное, это тоже нужно", – смеется собеседница Sputnik.

## "Чтобы было хорошо, как дома"

По спискам на субботние занятия к кармелиткам приходило примерно 20 детей. Поэтому сестры решили, что с сентября примут в группу 15 ребятишек в возрасте от 3 до 7 лет. По сути, детский сад не будет отличаться от привычных дошкольных учреждений. Здесь будет свой распорядок, занятия. Единственное отличие – заниматься с детьми будут монахиня.

"У нашей сестры Вероники педагогическое образование, она специализируется как раз на дошкольниках. Пригласим других воспитателей, мы уже договорились. Кто-то с опытами по химии придет, кто-то музыке будет учить. Может, и я когда-нибудь закончу педагогику", – делится планами настоятельница.

При этом кармелитки не исключают, что идея детского сада может и не реализоваться. Тогда формат поменяют: сестры откроют что-то вроде светлицы. Малыши смогут прийти сюда на несколько часов, чтобы поиграть и позаниматься. Сестры их накормят и уложат спать, благо помещение это позволяет.

Кармелиткам хочется создать спокойные условия для роста и развития детей, поскольку стрессов им и так хватает. По этой же причине специально привлекать в свой сад малышей монахини не видят смысла.

"Хочется не только показать роль церкви в воспитании. Что мы тоже можем учить читать, писать, считать, петь. Что можем создать хорошие условия – те же игрушки купить, мультик включить. Но больше нам бы хотелось, чтобы малышам здесь было хорошо, как дома. Чтобы им сюда хотелось приходить и оставаться", – заключает сестра Татьяна.

*Sputnik.by*



**Для детского дома удалось выкупить часть дома по соседству.** *Фото Sputnik*

Каталіцкі ВЕСНІК №6 (111) чэрвень 2020 г.

# "Это не происходит как в фильмах": как в России служит экзорцист католической церкви

**За последние два десятка лет в уральском обществе сложились определенные представления о таком явлении, как экзорцизм.**

С одной стороны, в немалой степени на это повлияли тематические художественные фильмы. С другой – в YouTube можно найти достаточно большое количество роликов, снятых во время этих реальных обрядов.

За разъяснениями по вопросу, чем в действительности является экзорцизм, корреспондент ЕАН обратился к католическому священнику Хосе Марии Вегасу.



Отец Хосе Мария Вегас – священник из монашеской конгрегации кларентинов, уроженец Испании. Кандидат философских наук. С середины 1990-х годов несет служение в России. С 1998 года преподает в единственной католической семинарии в России. В настоящее время занимает должность префекта по науке в Католической высшей духовной семинарии "Мария – Царица Апостолов" в Санкт-Петербурге. На протяжении почти десяти лет является епархиальным экзорцистом.

**– Отец Хосе, в последние несколько десятков лет представления об экзорцизме в обществе, в том числе на Среднем Урале, складывались под влиянием медиа, фильмов и других подобных источников. Расскажите о точном определении экзорцизма в католической церкви.**

– Экзорцизм – это сакраментальное служение, в котором церковь через священника, действующего с разрешения епископа, изгоняет беса, если очевидно, что человек находится под влиянием дьявола. В данном случае церковь опирается на авторитет Иисуса Христа, Который изгонял злых духов из людей.

Для того, чтобы заниматься этим служением, нужно верить церкви, которая говорит, что кроме физического мира существует невидимый мир и есть Бог – Творец видимого и невидимого. Существуют также сотворенные Богом ангелы, обладающие умом и свободной волей. Соответственно, среди них есть те, которые могут восстать против Творца. И они ведут эту борьбу против Бога через нас, потому что для них Бог очень высоко. Поэтому они стараются доказать, что Бог не добрый, не всемогущий, вредя нам как его творениям.

**– Каким образом совершается это служение?**

– Есть официальный обряд экзорцизма, содержащий определенные молитвы. В начальной части читается молитва на освящение воды и литания святым. После мы читаем псалом, далее следует чтение Евангелия, после которого можно добавить проповедь. Потом священник возлагает руки на человека, одержимого злым духом, и далее следуют чтения Символа веры, молитвы Господней "Отче наш" и совершается знамение креста.

После этого следует уже молитва экзорцизма. Первая называется просительной формулой, в которой священник просит Бога об одержимом. Вторая – это повелительная формула. Эта вторая в ней от имени Иисуса Христа обращена к дьяволу или злому духу. Есть разные формулы. Например, повелевается дьяволу, чтобы он ушел из человека. Это можно повторять несколько раз. Зависит от ситуации, от того, насколько глубоко дьявол укоренился в человеке. Не всегда получается с первого раза добиться освобождения человека от влияния злых духов. Иногда на это требуется несколько лет.

**– Есть ли разница: проводить экзорцизм в индивидуальном порядке или для большого количества людей, как можно увидеть это в православной традиции?**

– В православии действительно есть практика массовой отчитки, но это их традиция, и я не могу давать здесь оценок. В католической церкви иногда харизматичные экзорцисты тоже проводят обряды с присутствием массы людей. В православии также есть экзорцисты, которые принимают только лично. Они совершают молитвы в индивидуальном порядке.

**– Скептики и противники экзорцизма настаивают, что одержимость – это одно из проявлений психических заболеваний...**

– Церковь требует до проведения экзорцизма проверить человека, в том числе на наличие психических отклонений или заболеваний. Поэтому экзорцисты работают вместе с психиатрами, определяют: у человека заболевание или проблема духовного рода?

Распознать точно, когда человек испытывает чрезвычайное влияние дьявола, а когда у него физическое или психическое заболевание, – непростая задача. Симптомы могут не только быть схожими, но иногда и перемешиваются. Во всяком случае, первое условие для того, чтобы установить, духовная это болезнь или психическая, – признать, что на самом деле существуют истинные явления духовного характера, которые не сводятся к психической сфере.

У нездорового человека это постоянные состояния с моментами обострения. Если у человека нет психических отклонений, то это одержимость или другие степени влияния дьявола. Нужно сказать, что одержимость или другие степени чрезвычайного влияния дьявола (как, например, наваждение) не несовместимы с благодатью Господа. Человек может быть в благодати, но все равно страдать по необъяснимым причинам.

Когда я говорю, что нужно пойти к психиатру, дабы исключить наличие отклонений, очень важно, чтобы психиатр был верующим, чтобы он мог рассмотреть все варианты происходящего с человеком, в том числе духовные проблемы. Неверующий специалист будет трактовать ситуацию только в одном ключе.

**– Какие могут быть симптомы одержимости?**

– Проявляются они поразному. Человек чувствует дискомфорт, у него могут возникать кошмары, появляется необъяснимая для него самого ненависть к святыням. Он не может зайти в церковь, не может молиться. Эти признаки возникают в определенные моменты.

В целом в католическом богословии различают три уровня влияния дьявола на человека. Первое – это угнетение: внешнее воздействие злого духа. В таком случае человек без определенных причин испытывает усталость, боль, болезни. И медицинские специалисты не могут объяснить, почему это происходит с человеком. Второй уровень – наваждение, когда дьявол старается провоцировать в человеке отрицательные мысли и желания: отчаяние, недоверие, навязчивые мысли о самоубийстве и так далее. Наваждение как состояние не постоянно. Здесь характерно, что есть время покоя и есть моменты сильного нападения.

И, наконец, третий уровень – одержимость, когда помимо вышеуказанных симптомов дьявол может управлять телом человека. Из практики экзорцизма можно сказать, что здесь проявляются такие симптомы, как говорение на не известном одержимому языке, ясновидение, проявление одержимым сил, превышающих его возраст или состояние. Но подлинная одержимость – явление крайне редкое.

**– Может ли экзорцизм нанести вред здоровью?**

– Мой опыт не подтверждает такого. Экзорцизм – это не магия, это молитва. Если есть реакции со стороны человека, то это не из-за молитвы, а из-за того, что у него проблемы. Иногда человек может очень резко отреагировать во время обряда, и нужно действовать разумно. Например, он может упасть или потерять сознание, и нужно позаботиться, чтобы кто-то его поддержал. Но сам экзорцизм, как говорит мой опыт, для здоровья не опасен. Это не происходит как в фильмах.



**– Какими могут быть причины одержимости?**

– Они могут быть очень разными. Человек подвергается влиянию дьявола через практики оккультизма, спиритизма, некоторые практики New Age. Или же он был связан с сатанизмом, занимался магией, участвовал в эзотерических группах. Здесь он сам несет ответственность. Это самая прямая причина. Когда человек понимает, что это плохо, и пытается уйти из этого мира, именно тогда возникают проблемы: дьявол старается удержать свою добычу.

Есть другие причины, когда человек не занимался этим непосредственно, но обращался к экстрасенсам, астрологам, "бабкам", чтобы решить свои материальные проблемы, улучшить здоровье, найти работу. Или обращался к этим людям, чтобы навести порчу или приворот на другого человека. Есть случаи, когда человек попал под влияние того мира потому, что родители отвезли его к экстрасенсам, когда он был в несознательном возрасте.

С одной стороны, к этим вещам относятся как к суеверию, но на самом деле они действуют на человека. Получается, что сам человек не занимался чем-то похожим, но связывает себя с тем миром. В конечном итоге это поворачивается против него самого.

Наконец, есть вариант, когда человек сам ничего не делал, но на него пытаются влиять через наведение порчи или приворота. Иногда это тоже действует, хотя человек и не виновен. Естественно, возникает вопрос: почему так происходит, почему Бог позволяет? Но это из той же категории вопросов: почему Бог позволяет людям убивать друг друга? Люди могут навредить друг другу физически, экономически и точно так же духовно.

**– С одной стороны, все больше людей позиционирует себя прогрессивными представителями общества и о таких вещах предпочитает говорить пренебрежительно. С другой, у нас в области и в Екатеринбурге есть устойчивый спрос на услуги экстрасенсов и тому подобных. Открываются магазины по продаже оккультных предметов, что также говорит о популярности этих течений. Как вы объясняете такой интерес?**

– В человеческой природе есть религиозное начало. Хочет этого человек или нет. И если он не развивает это в правильном направлении, то возникают отклонения. Возникает интерес к тому миру, который все-таки есть. Часто говорят, что, если исчезает один священник, появляются сто колдунов. Я считаю, что главная причина возрастающего интереса к оккультизму, к спиритизму – это ослабление христианской веры. Ее главная цель – контакт с Богом, ответ на поиски. Если человек отказывается от такого пути, он ищет другие каналы. И эти каналы очень опасны, сомнительны. Они приводят к ложным богам, которые на самом деле являются злыми духами.

**– В интернете можно найти достаточно много видеороликов с обрядами экзорцизма в православных храмах. Этично ли делать такие записи и публиковать их?**

– Я подобные ролики не смотрел, поэтому сложно оценивать. Полагаю, это частные инициативы, которые делаются без благословения церкви.

**– Вы допускаете, чтобы во время проведения обряда велась съемка?**

– Иногда ко мне обращались журналисты с такими просьбами, но я не соглашался. Я не запрещаю присутствовать, чтобы вместе помолиться. Но с журналистами я осторожен потому, что среди ваших коллег есть люди, которые ищут скандальные материалы или пытаются спекулировать на этом. Хотя я не против того, чтобы просто пообщаться с журналистами.

**– И напоследок, что бы вы пожелали жителям Среднего Урала?**

– Чтобы они жили хорошо, были с Иисусом Христом. И тогда бояться будет нечего. Здоровья и благополучия!

*ЕАН*



## Фотафакт. Браты-блізняты ў Польшчы разам прынялі пасвячэнне дыяканату

У касцёле Святой Тройцы ў Енджэюве былі высвечаны тры выпускнікі пятага курса Вышэйшай семінарыі ў Кельцэ. Урачыстую Імшу адслужыў біскуп Марыян Флорчык, паведамляе echodnia.eu.

Пасвячэнне дыяканату прынялі браты-блізняты Лукаш і Томаш Хованец – абодва з парафіі Святой Тройцы ў Енджэюве – і Пётр Гжэгожэк – з Тарнаўскай дыяцэзіі.

Для нававысвечаных дыяканаў і іх сем'яў гэта было вялікім перажываннем. Асаблівае ўзрушэнне перажывалі бацькі блізнятаў.

### На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** ліпеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*;

**3** ліпеня – імяніны адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**5** ліпеня – дзень нараджэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, **кс. Аляксандр Сапель** *(Віцебск)*;

**7** ліпеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10** ліпеня – імяніны адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14** ліпеня – дзень нараджэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15** ліпеня – імяніны адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*;

**16** ліпеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **кс. Генадзь Ляўкоў**;

**17** ліпеня – імяніны адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20** ліпеня – імяніны адзначае **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**21** ліпеня – дзень нараджэння адзначаюць **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**22** ліпеня – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*; імяніны адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**25** ліпеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*; імяніны адзначае **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**28** ліпеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*; імяніны адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*;

**30** ліпеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Хрысціянскія знакі і сімвалы

**Першыя хрысціяне выкарыстоўвалі сваю асаблівую сістэму знакаў і сімвалаў, якая дапамагала распазнаваць ім адно аднаго падчас ганенняў. Гэтыя знакі дайшлі таксама да нашых часоў і захаваліся як багацце Касцёла. Прайдзіце новы тэст "Каталіцкага Весніка" і праверце, ці добра вы знаёмыя з сімваламі хрысціянства.**

**1** Голуб з'яўляецца сімвалам:



**А.** Радасці
**Б.** Святога Духа
**В.** Святой Тройцы

**2** Адным з самых вядомых хрысціянскіх сімвалаў з'яўляецца выява гэтай жывой істоты. Яе грэцкая назва складаецца з першых літар выразу: "Езус Хрыстус Божы Сын Збаўца". Што гэта за істота?




**А.** Певень
**Б.** Ягнё
**В.** Рыба

**3** Пелікан з'яўляецца таксама хрысціянскім сімвалам. Што ён сімвалізуе?



**А.** Знак сілы і магутнасці
**Б.** Самаахвяраванне, сімвалізуе Хрыста, Які корміць людзей Сваім Целам і Крывёю
**В.** Сімвал уваскрасення

**4** Адзін з улюбёных сімвалаў першых хрысціян. Ён азначае чысціню, прыгажосць і беззаганнасць. Што гэта за сімвал?



**А.** Лілея
**Б.** Аліўкавая галінка
**В.** Ружа

**5** Гэты знак абазначае Касцёл, жыццёвую сілу, багацце ласкі, эўхарыстычную ахвяру. У сваіх прыпавесцях да гэтай выявы часта звяртаўся сам Госпад.



**А.** Вінаградная лаза
**Б.** Смакоўніца
**В.** Гарчычнае зерне

**6** Гэты вядомы сімвал добраахвотнай ахвяры у першыя стагоддзі хрысціянства часта адлюстроўваўся з німбам.



Таксама гэта сімвал адкуплення, пакоры, лагоднасці і паслухмянасці Хрыста.
**А.** Голуб
**Б.** Певень
**В.** Ягнё

**7** Сімвал пільнасці і Уваскрасення. Таксама ён з'яўляецца знакам евангеліста Марка і асацыюецца з магутнасцю і каралеўскай годнасцю Хрыста.



**А.** Арол
**Б.** Леў
**В.** Голуб

**8** Вінаградная лаза і хлеб – гэта сімвал:



**А.** Эўхарыстыі
**Б.** Дабрабыту
**В.** Бласлаўлення

**9** Гэты сімвал цвёрдага падмурку хрысціянскага жыцця, сімвал надзеі на збаўленне.



**А.** Карабель
**Б.** Якар
**В.** Каўчэг

**10** Сімвал евангеліста Лукі. Азначае ахвярнае служэнне Збаўцу, Яго Крыжовую ахвяру.



**А.** Леў
**Б.** Арол
**В.** Цяля

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 12

## Фотафакт. Дэлегацыя польскай амбасады наведала пахаванні польскіх жаўнераў у Дунілавічах



17 чэрвеня польская дэлегацыя наведала вайсковыя пахаванні ў Даўгінаве, Крулеўшчыне і Дунілавічах.

# У Глыбокім памаліліся за ахвяраў польска-савецкай вайны 1920 года

**На набажэнста прыбыла польская дэлегацыя на чале з Амбасадарам Польшчы ў Беларусі Артурам Міхальскім. З духоўных асобаў прысутнічалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, пробашч Глыбоцкай парафіі кс. Мікалай Ціхановіч і кс. Юрый Бараўнёў з Крулеўшчыны.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*



Каб прывітаць высокіх гасцей, на могілках Копцеўка ў Глыбокім сабраліся прадстаўнікі грамадскасці, мясцовай улады, польскай школы з Браслава, журналісты.

Напачатку адбылося набажэнства за вайскоўцаў, што загінулі сто гадоў таму, баронячы гэтыя землі ад бальшавіцкай навалы. Правёў яго біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Потым польская дэлегацыя ўсклала вянок да помніка воінам, на іх магілах запалілі знічы.

Амбасадар Артур Міхальскі і намесніца кіраўніка Глыбоцкага раёна Таццяна Тарасевіч выступілі з кароткімі прывітальнымі словамі.

Прадстаўнік суседняй краіны адзначыў, што перамога ў Варшаўскай бітве, стагоддзе якой мы будзем хутка святкаваць, мела вялікае значэнне не толькі для Польшчы, але і для ўсёй Еўропы. У тым ліку і для гэтай зямлі.

Таццяна Тарасевіч паведаміла, што глыбоцкія ўлады ў меру сваіх магчымасцяў падтрымліваюць парадак на ўсіх польскіх пахаваннях. Яна выказала спадзяванне, што беларуска-польскія адносіны будуць толькі паляпшацца.

– У гэтым юбілейным годзе мы вырашылі наведваць такія могілкі ў Беларусі, дзе пахаваныя жаўнеры, ахвяры польска-савецкай вайны, – паведаміў Артур Міхальскі. – Сёння мы толькі распачынаем гэтую справу. Зранку наведалі пахаванне ў Докшыцах, а зараз прыехалі ў Глыбокае.

Амбасадар паведаміў, што сёлета яны плануюць наведаць усе вялікія пахаванні ў Беларусі (іх каля дваццаці), а таксама і іншыя, драбнейшыя, якіх вельмі шмат.

Кс. Мікалай Ціхановіч падзякаваў польскім гасцям за візіт і адзначыў, што заўсёды ставіць у прыклад сваім парафіянам, як польская дзяржава клапоціцца пра вайсковыя пахаванні, у тым ліку і за мяжой.

На наступным тыдні прадстаўнікі Польшчы плануюць наведаць пахаванні жаўнераў у Крулеўшчыне, Дунілавічах і Даўгінаве.





## У ЗША знаходзіцца самы маленькі каталіцкі касцёл у свеце



**Касцёл, пабудаваны ў 1928 годзе, складаецца з аднаго алтара і дванаццаці аднамесных лавак. Ён быў “самым маленькім каталіцкім касцёлам” у ЗША.**

Заходняя Вірджынія вядомая ва ўсім свеце сваімі выдатнымі краявідамі, увекавечанымі ў песні Джона Дэнвера “Country Roads”. Але, напэўна, мала хто з католікаў ведае, што ў гэтым штаце ёсць касцёл, які лічыцца самым маленькім ва ўсіх Злучаных Штатах!

Касцёл памерам 3,6 × 7,3 м знаходзіцца ў Сілвэр-Лэйк (Заходняя Вірджынія). У канцы 30-х гг. XX стагоддзя Сілвэр-Лэйк стаў прыцягваць ахвотных арандаваць дамы для адпачынку на суседнім возеры. У 1930 г. тут былі створаныя парк і кемпінг. Турысты прыязджалі сюды для адпачынку або на пікнік.

Менавіта тады тут пабудавалі “самы маленькі касцёл Амерыкі”. Узведзены як сямейны касцёл, ён змяшчае адзін маленькі алтар і дванаццаць аднамесных лавак.

Сёння касцёл з’яўляецца культурным помнікам. Ён адлюстраваны на дарожных знаках, а таксама на паштоўках, якія можна адправіць з пошты Сілвэр-Лэйк.

*Aleteia*
*пераклад Catholicnews.by*

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# “Сённяшні свет патрабуе Божага шаленства”:
## прэзбітэрый віцебскага касцёла павялічыўся на двух святароў

**23 мая ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім біскуп Алег Буткевіч удзяліў святарскае пасвячэнне. Прэзбітарамі Касцёла на Віцебшчыне сталі дыяканы Ілля Саўчанка з супольнасці айцоў-марыянаў і Яўген Шымановіч.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

Для Глыбокага гэта асаблівая радасць: дыякан Ілля нарадзіўся і вырас сярод глыбачан, а дыякан Яўген праходзіў практыку ў парафіі і вельмі спадабаўся вернікам, бо закрануў іх сэрцы сваімі змястоўнымі і вельмі карыснымі казаннямі і канферэнцыямі.

На ўрачыстасць прыбылі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, айцы-марыяне, якія служаць у Беларусі, святары з Віцебскай дыяцэзіі, а таксама да малітоўнай падтрымкі далучыліся вернікі з Глыбокага і госці з іншых парафій.

На самым пачатку біскуп Алег адзначыў, што збіраемся ў глыбоцкай святыні, каб прасіць дару Духа Святога, прасіць ласкі святарскай паслугі для нашых дыяканаў – Іллі і Яўгена, якія сёння атрымаюць святарскае пасвячэнне. “Значная падзея адбываецца ў такіх неардынарных умовах, але мы просім ласкі трываласці для іх на гэтай дарозе, на якую Пан Бог іх паклікаў, каб былі вернымі і адданымі слугамі Касцёлу і Богу”, – дадаў біскуп.

Кандыдаты на святарства пацвердзілі сваю прысутнасць, пасля чаго пробашч Глыбоцкай парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч звярнуўся да біскупа з просьбай аб пасвячэнні новых святароў.

Сваё казанне ардынарый распачаў з развагі над Божым планам, які рэалізуецца ў дадзены момант. “Да гэтага дня быў час падрыхтоўкі. Яшчэ раней Бог, перш чым даў жыццё, ужо ведаў, кім яны будуць. Сёння гэты план Ён рэалізуе. Часта кажуць, што ў жыцці чалавека ўзнікае падзея, якая дзеліць гэтае жыццё на дзве паловы: “да” гэтага моманту і “пасля”. Сёння для дыяканаў якраз такі дзень. Вялікая і немагчымая для чалавека місія для выканання. Што трэба для таго, каб місію споўніць? Апостал Павел сёння падказвае: паступаць згодна з паклібканнем”.

Пастыр дыяцэзіі звярнуў увагу на важныя рэчы для паслугі святара – слабасць і пакору. “У слабасці ўдасканальваецца моц чалавека. Заданне чалавека – дазволіць Богу дзейнічаць праз Сябе. Гэта прыгожа гучыць, але гэта нялёгка здзейсніць. Чаму? Бо ёсць у чалавека наступства граху першароднага – пыха. Але Езус нам падае прыклад: Бог, Які прыйшоў у гэты свет, стаўся падобным да нас ва ўсім, абмежаваў Сваю Боскасць. Прыйшоў, не каб Яму служылі, але каб служыць. Сам Езус паказвае прыклад пакоры. Бог дзейнічае праз пакору. Такі парадокс: людская слабасць і абмежаванні вельмі моцна выхоўваюць у пакоры. Бог будзе праз гэта клапаціцца і будзе вучыць пакоры. Праз біскупа і настаяцеляў будзе ламаць часам вашы планы і патрабаваць паслухмянасці. Гэта не будзе проста, а часам будзе балюча, але гэта адзіная дарога, каб Божая моц і ласка дзейнічала праз вас (...)

Апостал Павел кажа, што пайсці за Богам – гэта шаленства ў пэўным сэнсе. Сёння мы маем двух “шалёных” людзей, якія адважыліся пайсці гэтай дарогай. Але гэта Божае шаленства, якога патрабуе свет”, – падвёў вынікі сваёй гаміліі іерарх і пажадаў дыяканам служыць у пакоры, з радасцю і паБожаму.

Пасля таго, як было прамоўлена Божае Слова, распачаўся сам абрад пасвячэння. Біскуп Алег, усклаўшы рукі на кандыдатаў, адарыў іх ласкай Хрыстовага святарства.

У касцёле пачаўся абрад Эўхарыстыі, у якім айцец Ілля і кс. Яўген упершыню прынялі ўдзел як святары.

Напрыканцы Імшы новапрэзбітары дзякавалі Усемагутнаму Богу, сваім бацькам, святарам і выхавальнікам, якія дапамагалі ў распазнанні паклікання, за гэты свой дар, які сёння атрымалі.

Падзея, што адбылася, – вялікая ласка, якой Міласэрны Айцец надзяліў беларускі народ, а асабліва Касцёл на Віцебскай зямлі.









# Каляндар на ліпень

**2 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.**



У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, Якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне. Цэнтр святкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння ў Беларусі і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Гэты касцёл, адзін з самых прыгожых і вялікіх на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з'яўляецца малой базылікай. Кожны год сюды ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым Будслаўскім фэсце.

**3 ліпеня – успамін святога Тамаша, апостала.**



Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі. Калі Езус у Дзень Уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Ён спачатку не паверыў у Змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць". Падчас наступнага з'яўлення ўваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – Сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Ён лічыцца апекуном горада Рыгі, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся пра шчаслівае сужэнства.

**11 ліпеня – свята святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**



Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (Паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям'і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў. Каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдзень ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы "Ora et labora" ("Маліся і працуй"), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут "Ordo Sancti Benedicti", які стаў асноваю для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду. Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізняці святой Схаластыкі. Святы з'яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль (Маці Божай Шкаплернай).**



У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з пераследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаныя выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад маляведомым законам узнікла пагроза роспуску. У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У атачэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, Яна асвяціла яго знакам Сваёй Матчынай апекі, сказаўшы: "Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў: хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе. Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэдня прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чыстца ў неба.

**22 ліпеня – свята св. Марыі Магдалены.**



Са старонак Бібліі нам вядома, што Марыя прыйшла з Магдалы – "рыбнай вежы" на Галілейскім моры, гэта прыкладна ў 4 км на паўночны захад ад Тыберыі. Вядома, што Езус выгнаў з яе сем злых духаў (Мк 16, 9, Лк 8, 2). Ад гэтага моманту яна становіцца вернай спадарожніцай Хрыста і клапоціцца разам з іншымі жанчынамі пра людзей, якія ідуць за Езусам. Усе чатыры евангелісты сведчаць пра тое, што Марыя Магдалена прысутнічала пры смерці Хрыста і падчас Яго пахавання. Заходняя традыцыя атаясамлівае Магдалену з блудніцай, якую Хрыстос выратаваў ад збіцця камянямі і якая здзейсніла вельмі кранальны ўчынак: калі Езус абедаў у аднаго з фарысеяў, яна прыпала да ног Ягоных, стала ліць на іх каштоўны духмяны алей, абмываць іх слязьмі і выціраць сваімі валасамі.

Евангелле змяшчае тры згадкі пра гэты эпізод. Прынамсі, адзін з іх прыпісваецца Марыі. Няма ўпэўненасці ў тым, што яна была распусніцай, але дакладна вядома, што яна была сведкай уваскрасення Хрыста. Марыя Магдалена па просьбе Езуса накіравалася да апосталаў, каб абвясціць ім, што Ён уваскрос. Пазней яны сталі пераказваць гэтую праўду іншым. Таму слушна, што яна была названа "апосталкай апосталаў". 22 ліпеня Каталіцкі Касцёл адзначае Дзень Марыі Магдалены як свята. Яшчэ да 2016 г. гэта быў абавязковы ўспамін. Змена адбылася па жаданні Папы Францішка, які хацеў такім чынам падкрэсліць ролю не толькі гэтай святой жанчыны, якая першая перадала свету звестку пра ўваскрасенне Пана Езуса, але і ролю ўсіх жанчын у Касцёле.

**25 ліпеня – свята св. Якуба, апостала.**



Апостал Якуб, празваны Большым або Старэйшым, быў сынам рыбака Завядзея і Саламеі, братам Яна Багаслова. Падчас занятку рыбнай лоўляй Якуб і яго малодшы брат былі пакліканы Панам. З гэтага часу браты ўжо ніколі не адыходзілі ад Хрыста. Абодва яны былі залічаныя да дванаццаці апосталаў. Якуба і яго брата за іх парывісты тэмперамент празвалі Езусам Баанергес – Сынамі грому. Святы Якуб разам са сваім братам Янам і святым Пятром быў адным з улюбёных вучняў Езуса. Ім траім Хрыстус, пераважна перад іншымі апосталамі, адкрываў свае боскія таямніцы. Так, калі Ён захацеў аб'явіць сваю Боскую хвалу на гары Табор, то ўзяў з сабою толькі Пятра, Якуба і Яна. Яны ж трое прысутнічалі ў садзе Гетсіманскім, калі Пан у душэўных цярпеннях маліўся да Бога Айца. Гэтая блізкасць Якуба і Яна да Настаўніка, верагодна, заахвоціла іх звярнуцца з нясціплай просьбай да Пана, каб Ён даў ім сесці па Яго правую і левую руку ў Валадарстве Нябесным. Пан жа адказаў: не ведаеце, чаго просіце. Ён адкрыў братам таямніцы Валадарства Божага і сказаў, што яны будуць піць Яго келіх – зведаюць бедства і пакуты за імя Хрыстова. Прадказанне Пана адносна абодвух братоў споўнілася з дакладнасцю.

**29 ліпеня – успамін св. Марты.**



Святая Марта была сястрою Марыі і Лазара з Бэтаніі. Езус часта бываў у іх доме. Аднойчы, калі Езус гасціў у іх, Марта як добрая гаспадыня вельмі клапацілася, каб прыгатаваць пачастунак, а яе сястра Марыя проста сядзела каля ног Збаўцы і ўважліва слухала Яго. Гэта раззлавала Марту, але Езус сказаў, што менавіта Марыя выбрала ў гэтым выпадку "найлепшую частку". У іншым эпізодзе з Евангелля паводле Яна, у якім апавядаецца пра ўваскрашэнне Лазара, Марта вызнае месіянства Хрыста. Паводле легенды, пасля ўваскрасення Езуса Марта разам з братам і сястрою накіравалася ў Францыю, дзе абвяшчала Евангелле і жыла ў пакаянні. Яна памерла ў хуткім часе пасля сястры і была пахаваная ў Тарасконе – на поўдні Францыі. Святая з'яўляецца апякункай хатніх гаспадыняў і работніц.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Як справіцца з духоўнай лянотай?



*"Хвала Хрысту! Падкажыце, калі ласка, як можна справіцца з духоўнай лянотай да малітвы? Дзякуй за адказ".*
*Павел*

– Напачатку дзякую Паўлу за пытанне, якое сведчыць пра яго жаданне паглыбляць адносіны з Богам. Лянота і нежаданне маліцца – гэта праблема, з каторай змагаецца значная колькасць вернікаў. Падобна як, напрыклад, рассеянасць на малітве, пазбяганне яе, таксама і лянота можа мець розныя крыніцы. Кароткачасовыя або спантанныя праблемы ў сферы адносін з Богам здараюцца ва ўсіх і нагадваюць пра слабасць нашай чалавечай натуры ды патрэбу ў дапамозе Духа Святога. Калі ж нежаданне маліцца або лянота працягваюцца даўжэй, то трэба шукаць іх прычыны, бо інакш аніякія пастановы ці практыкаванні не дапамогуць. Ёсць вернікі, якія гадамі імкнуцца ўдасканальвацца ў малітве, аднак у іх нічога на атрымліваецца. Адбываецца так не таму, што яны маюць слабую волю, а па прычыне нявырашаных унутраных або знешніх праблем ды прывязанасці да граху.

## Малітва – справа любові

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла (даступны ў інтэрнэце), які я раю чытаць і разважаць над ім, на пачатку чацвёртай часткі, што прысвечаная менавіта малітве, цытуе словы святой Тэрэзы ад Дзіцятка Езус: "Для мяне малітва – гэта ўздым сэрца, просты погляд на неба, вокліч падзякі і любові як у пакутах, так і ў радасці". Тэрэза з Лізʼё малітву спалучае з любоўю. Святая кажа пра сэрца (любоў), просты погляд (пакора), падзяку (удзячнасць Богу) і ўрэшце пра сталасць у малітве ва ўсіх абставінах жыцця (спадзяванне на Бога).

У сваіх творах французская кармелітка найчасцей піша пра любоў да Езуса, жадаючы цалкам спалучыцца з Ім: "Хачу любіць Езуса так, як ніхто яшчэ не любіў Яго". Для малой Тэрэзы малітва – гэта адносіны любові, штосьці вельмі простае і відавочнае, калі ты блізка з Богам і любіш Яго ўсім сэрцам.

Іншая святая, Тэрэза Авільская, справу малітвы разумее непасрэдна ў катэгорыях любові: "малітва, на мой погляд, не што іншае, як толькі даверлівае і сяброўскае прабыванне з Богам, частая размова з тым, пра каго мы ведаем, што Ён нас любіць". Паколькі святыя пішуць пра духоўнае жыццё са свайго вопыту, то іх сведчанне становіцца вельмі пераканаўчым для тых, хто імкнецца трываць у камуніі з Богам. Малітва – гэта не толькі словы, думкі або гатовыя тэксты, а перадусім любоў. Аналагічна да зямной любові, яна дае крылы для высокіх палётаў.

Бог ёсць любоў! Ён стварыў нас і адкупіў (збавіў) з любові. Варта таксама ўсведамляць, што Бог-любоў прысутнічае ў нашай душы звышнатуральна і асабіста. Гэта вельмі важна, бо любіць у поўнай меры можна толькі асобу. З боку Бога любоў сталая і актыўная, нібы вогнішча, якое пастаянна выпраменьвае цяпло, нібы сонца, якое не перастае праліваць святло, або крыніца, якая заўсёды бруіць. Малітва патрабуе звышнатуральнай любові і асвячальнай ласкі, якая мае тую ж натуру, што і Бог, ды робіць чалавека Божым дзіцём, здольным да зʼяднання і камуніі з Богам. Ужо ў сакраманце хросту мы атрымліваем гэтую ласку. Яна пабуджае волю чалавека да малітвы, якая, са свайго боку, патрабуе адпаведнай падрыхтоўкі, часу ды развіцця. Інакш моліцца дзіця, інакш малады чалавек, а яшчэ інакш хтосьці ў гадах. Падобна да любові, малітва мае свае перыяды і формы развіцця. Калі мы ўсведамляем, што Бог рэальна прысутны ў нашым жыцці, што Ён вельмі блізкі і нас любіць, то тады малітва становіцца чымсьці простым, натуральнай патрэбай, бо той, хто любіць, хоча быць з любімым і мець з ім адносіны.

## Лянота

Сярод сямі дрэнных звычак (заганаў), якія заглушаюць і зацямняюць сумленне, а таксама адкрываюць чалавека на зло і робяць яго схільным да граху па звычцы, катэхізіс змяшчае лянату. Гэта свайго кшталту трывалыя адносіны да жыцця, нежаданне выконваць фізічныя, разумовыя альбо духоўныя намаганні. Працэй кажучы, чалавек апанаваны лянотай, марнуе, а нават забівае дадзены Богам час.

Я прачытаў неяк словы, якія выдатна ілюструюць сутнасць ляноты: "каб мне так хацелася, як не хочацца...". Магчыма, кожны чалавек мае моманты, калі нагогул нічога не хочацца. Не адразу гэта лянота. Прычына можа быць у іншым: хтосьці, магчыма, перагружаны працай, стомлены або ў выніку нейкіх жыццёвых абставін ці падзей адчувае слабасць. Грэх пачынаецца тады, калі ўнутраныя ці знешнія складанасці эфектыўна адцягваюць чалавека ад дзеяння, якое ён павінен здзейсніць. Тут асабліва важнае слова "павінен". Чым важнейшы абавязак, ад якога чалавек ухіляецца, тым большая яго віна. Такім чынам, мы разумеем, што чым больш сурʼёзны абавязак, тым цяжэйшы грэх.

Зграшыць можна не толькі думкай, словам ці ўчынкам, але і занядбаннем. Мы памятаем словы Езуса пра Апошні суд (Мц 25,31–46), на якім людзі, каторыя стаялі леваруч ад Сына Чалавечага, пачулі абвінавачанне ў тым, што не выканалі тое, што павінны: не накармілі галодных, не далі піць сасмаглым і г.д. Асаблівым тыпам ляноты зʼяўляецца духоўная лянота, якую ў тэалогіі называюць "акедыя". Гэта грэцкае слова азначае "бесклапотнасць, расчараванне, млявасць, стомленасць, смутак". Першапачаткова акедыя адносілася да жыцця манахаў і пустэльнікаў як форма спакусы. Асаблівым момантам нападаў злога духа лічыўся поўдзень, калі сонца бязлітасна пякло ў пустыні, што выклікала стомленасць людзей, адданых малітве і аскезе. Менавіта таму акедыю яшчэ называюць дэманам поўдня. Вельмі актуальнымі зʼяўляюцца тэксты пра акедыю Эвагрыя Пантыйскага (345 – 399), які заўважае, што малітва, каторая дагэтуль прыносіла радасць, раптам траціць свой смак. Тое ж сцвярджае Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў 2094 нумары: "Нуда альбо духоўная лянота вядуць да адкідання радасці, якая паходзіць ад Бога, і да агіды адносна Божага дабра".

Ляноце спадарожнічае свайго кшталту сум, які вынікае "з нядзольнасці паверыць у веліч нашага чалавечага пакліканння, якое мы атрымалі ад Бога" (*Ёзэф Ратцынгер, Погляд на Хрыста: практыкаванні ў веры, надзеі і любові).* Будучы Папа Бэнэдыкт XVI такую паставу называе "дзіўнай нянавісцю чалавека да ўласнай велічы" ды раіць імкнуцца да таго, што праўдзівае і вялікае, каб не дапусціць пашырэння ў сабе ўнутранага суму па прычыне пустэчы.

## Перамога малітвы

Клайв Стэйплз Льюіс у кнізе "Разважанні над псальмамі" пісаў, што калі мы выконваем свае рэлігійныя абавязкі, то становімся падобнымі да людзей, якія капаюць каналы ў бязводнай зямлі, каб, калі нарэшце зʼявіцца вада, яны былі гатовыя. Калі табе не хочацца маліцца, то скажы пра гэта Пану Богу, як дзіця сваім бацькам: "Тата, мама, мне не хочацца". Гэта дасць пачатак шчырасці перад Богам.

Кожны чытач "Каталіцкага Весніка" вывучаў замежную мову. Можа, хтосьці робіць гэта і цяпер. Мы дакладна ведаем, што нельга загаварыць на невядомай мове ўжо пасля першых заняткаў, бо трэба шмат вучыцца і пазнаваць. Часам патрэбна змяніць метад таксама ў малітве (сталаму чалавеку могуць не падысці малітвы для дзяцей, хоць мне асабіста вельмі падабаюцца, напрыклад, Эўхарыстычныя малітвы з удзелам дзяцей). Малітва патрабуе часу і сталасці, каб гэта прыносіла плён. Час мы разумеем тут як чаканне дзеяння Пана Бога, а не як хвіліны, адведзеныя для малітвы. Сталасць у малітве – гэта зарука цноты малітвы. Дзеля гэтага варта планаваць малітву на працягу дня і не прапускаць яе без важнай прычыны.



Я асабіста ведаю людзей, якія прысвячаюць малітве шмат часу і застаюцца ёй вернымі. Яны здабылі цноту малітвы – вельмі карысны дар. Трэба распачаць маліцца і пастаянна пазнаваць Бога ды самога сябе. Чым большае пазнанне, тым большая любоў і жаданне маліцца. Святая Тэрэза ад Езуса заахвочвае да малітвы таксама ў час сухасці або рассеянасці. Прыклад такой малітвы пакінула нам святая Тэрэза Калькуцкая, якая спазнала "цёмную ноч" у адносінах з Богам, аднак засталася вернай духоўным практыкаванням. Спецыяліст у справах духоўнасці святы Ігнацый Лаёла звяртае ўвагу на неабходнасць пастаяннасці ў духоўных практыкаваннях. Святы Айцец Францішак прыгадвае важнасць веры і трываласці ў малітве.

Дзеля развіцця малітвы патрэбная таксама вонкавая дапамога, напрыклад, з боку духоўнага кіраўніка. Я ўжо неаднойчы раіў нашым чытачам звяртацца з праблемамі ці пытаннямі да сваіх мясцовых душпастыраў, кансэкраваных асобаў або да людзей, якія вылучаюцца духоўным вопытам. Менавіта асабістая размова з такім чалавекам, падмацаваная ласкай Духа Святога, можа значна дапамагчы ў развіцці адносін з Богам.

Малітва – гэта змаганне, у якім чалавек можа стаць пераможцам, аднак не сваёй сілаю, а дзякуючы ласцы Бога. У Пасланні да Рымлянаў (8,26) чытаем, што Дух Святы падтрымлівае нас у малітве. Такім чынам малітва – гэта не толькі наша справа, але і справа Духа Святога, таму раю перад кожнай малітва заклікаць Яго такімі ці падобнымі славамі: Дух Святы, прыйдзі да нас, Дух святла і любові, Дух Агонь, прыйдзі і нас распалі!

Жадаю Паўлу і ўсім нашым чытачам ахвотнага духу для плённай малітвы!

*а. Аркадзь Куляха OCD*



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дарагому **ксяндзу-дэкану Яну Пугачову** з нагоды Дня нараджэння (3 чэрвеня) і імянін (24 чэрвеня) дасылаем нашы шчырыя віншаванні і сардэчныя пажаданні!*

*Вам, ойчанька, шчыра жадаем*
*Здароўя, любові, натхнення!*
*Да Бога малітвы свае пасылаем*
*І просім для Вас узмацнення.*



*Каб крыж, што Вам дадзены Богам,*
*Не быў для Вас цяжкім ніколі,*
*І розныя весткі, якіх шмат у свеце,*
*Не ранілі сэрца ніколі.*

*Хай сонейка Вас саграває,*
*І ветрык пяшчотны лагодзіць.*
*Ахоўнік-анёл хай над Вамі чувае,*
*І Божая ласка з нябёсаў сыходзіць!*

***Удзячныя вернікі парафіі Перамянення Пана, в. Германавічы***

## Адышоў да Пана кс. Анджэй Возьняк SCJ

**Віцебская Курыя са смуткам паведамляе, што раптоўна памёр кс. Анджэй Возьняк SCJ, пробашч парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Контах Старых (Польшча). Праз тры тыдні яму споўнілася б 57 гадоў.**

**■ кс. Віктар Місевіч**

Кс. Анджэй з 2003 па 2016 гг. быў пробашчам парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Паставах і дэканам Пастаўскім. Шмат зрабіў для развіцця гэтай парафіі. Быў адданым душпастырам.

Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць. Няхай адпачывае ў супакоі вечным. Амэн.





## Хвала Хрысту!

*23 чэрвеня – імяніны ў нашага шаноўнага кс. Зянона. Мы, вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах, шчыра віншуем **ксяндза Зянона Шчонхара** з імянінамі і выказваем яму словы ўдзячнасці, што ў гэты нялёгкі час эпідэміі ён разам з намі ўзносіць малітвы да Пана Бога, суцяшае і дае розныя парады.*

*Як свечка на алтары аддае сваё цяпло і святло, разганяе цемру, так і наш святар шчодра дзеліцца цяплом сваёй душы з намі, разганяе цемру нашых грахоў, даючы святло Евангелля.*

*Паважаны ксёндз Зянон! Няхай кожны дзень прыносіць Вам толькі добрыя весткі, а сэрца не кранаюць трывогі і смутак. Доўгіх гадоў Вам жыцця, радасці, моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў назаўжды!*

*Карыстаючыся нагодай, хочам таксама выказаць шчырую падзяку жанчынам-парафіянкам, якія клапоцяцца аб чысціні і парадку ў нашым храме і на прыкасцёльнай тэрыторыі. Ім не трэба казаць, што і дзе зрабіць. Яны бачаць самі, дзе непарадак і выпраўляюць яго. І ў гэты нялёгкі час эпідэміі, яны заўсёды ў касцёле, каб пасля працы ўзнесці да Пана Бога свае малітвы і падзяку.*

*Але пара назваць іх імёны: **Станіслава Сівіцкая**, **Рыма Пагада**, **Аліна Юрша**, **Галіна Зазноба**, **Рыта Арлоўская**, **Лёня Епішка**, **Іра Шукель**.*

*Няхай добры Божа аддзячыць вам за вашу нястомную працу, пачуе вашы просьбы і малітвы і шчодра адорыць Сваімі ласкамі, а Маці Божая клапатліва атуліць сваёй апекай.*

***Вернікі Відзаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Наш былы пробашч **ксёндз Алег Півавар** 13 чэрвеня адзначыў імяніны.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, ксёндз Алег! Жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, шмат Божых ласкаў, добразычлівых людзей побач, сілы і трываласці ў нялёгкай святарскай паслузе! Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя і Ваш апякун Антоні Падуанскі клапоцяцца пра Вас, не пакідаюць без штодзённай апекі, прыносяць радасць, суцяшэнне і цудоўную ўсмешку!*

***Данута Голубева, з павагай і ўдзячнасцю ад імя ўсіх парафіян касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем самыя шчырыя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму паважанаму **ксяндзу-пробашчу Паўлу Самсонаву** з нагоды Дня нараджэння (16 чэрвеня) і імянін (29 чэрвеня)!*

*Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні, за ўдзяленне сакрамантаў, за паглыбленне нашай веры, за ўсё, што было зроблена ў нашай парафіі на працягу дзесяці гадоў Вашага служэння Пану Богу і людзям!*

*Паважаны ксёндз Павел!*

*Ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, шмат сілаў, трываласці і аптымізму, асабліва ў гэты складаны час, больш добразычлівых людзей на святарскім шляху!*

*Няхай Дух Святы няспынна адорвае сваімі дарамі, а міласэрны Езус Хрыстус заўсёды апякуецца Вашым жыццём, напаўняе яго дабрынёй, радасцю і супакоем! Вашых бацькоў хай Бог адорыць здароўем і патрэбнымі ласкамі!*

*Ахінаем шаноўнага пробашча сваёй малітвай!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы (м. Дунілавічы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*9 чэрвеня дзень нараджэння адзначыў вікарый катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага **ксёндз Алег Зямчонак**.*

*Шаноўны ксёндз Алег! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды дня нараджэння! Няхай Пан Бог адорыць Вас ласкамі здароўя, мудрасці, мужнасці ў распаўсюджванні веры, напоўніць сэрца Вашае радасцю, любоўю і супакоем!*

*Наша парафія стала першым месцам Вашага служэння ў якасці святара. Спадзяёмся, што мы запомнімся Вам як добрыя вернікі і адкрытыя, шчырыя людзі. Дзякуем Вам за ахвярнае служэнне на карысць нашай супольнасці! Памятаем пра Вас у малітвах!*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 – А; 6 – В; 7 – Б; 8 – А; 9 – Б; 10 – В

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адпраўнік ахвяравання можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія мы вам сёння прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**8 ліпеня 2020г.** ***Мц 11, 25-30***

У Евангеллі Езус звяртаецца да Айца, называючы яго арамейскім словам "Абба", што значыць "Тата". Сын Божы прыходзіць у гэты свет, каб адкрыць нам праўду пра тое, што Бог – гэта не суддзя, які судзіць, не менеджар, які кіруе, не настаўнік, які павучае. Бог – гэта наш нябесны Тата, Які поўны любові да свайго стварэння. Езус таксама ўзгадвае пра мудрасць, пра таямнічыя веды, што схаваныя ад разумных і адкрытыя дзецям. Што Ён мае на ўвазе? Перш за ўсё Ён гаворыць пра пазнанне сэрцам, пра адкрытасць на Божую ласку. Каб пазнаваць Бога, неабавязкова мець навуковую ступень у тэалогіі і быць аўтарам акадэмічных трактатаў. Божая ласка дзейнічае ў сэрцы чалавека. Калі чалавек адкрываецца на яе, то гэта прыводзіць да выдатных падзеяў у яго жыцці. Таямніца Боскага жыцця Святой Тройцы схавана ад людскога вока, і ніхто не можа яго спасцігнуць людскім спосабам пазнання. Толькі Сын ведае Айца і толькі Айцец ведае Сына. Але калі ў чалавека ёсць жаданне станавіцца Хрыстовым,ператварацца ў Хрыста, то і пазнанне Бога Айца становіцца нечым рэальным і магчымым.

У Евангеллі Езус заахвочвае нас прыйсці да Яго па палёгку. Усе спрацаваныя і абцяжараныя могуць знайсці ў ім адпачынак і асалоду. Езус нас запрашае да Сябе. Усё вельмі проста. Мы маем запрашэнне ад Бога. Трэба толькі адказаць на яго сваёй згодай. Але як Езус прапануе нам палегчыць наш цяжар? Ён кажа: "Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне". Замест людскога цяжару трэба ўзяць цяжар ад Хрыста. Што гэта за цяжар? Гэта цяжар Хрыстовага вучнёўства: быць чалавекам, які прагне жыць Хрыстом, жыць так, як Хрыстус жыў. Ніякія зямныя складанасці і праблемы не страшныя, калі я жыву ў Хрысце. Бо Ягонае ярмо любае і цяжар Ягоны лёгкі.

**12 ліпеня 2020г.** ***Мц 13, 1-23***

Адна трацiна навучання Езуса змяшчаецца ў прыпавесцях. Выбіраючы такую форму прамовы, Езус хоча справакаваць нас да роздуму. Бо не дастаткова пачуць Божае слова вушамі. І не дастаткова пабачыць сваімі вачамі абраз ці рэлігійны абрад. Каб Божае слова дало плён, яго трэба пачуць сэрцам, гэта значыць, мець у сабе жаданне і гатоўнасць выканаць Божую волю. Мы чуем, як Збаўца выходзіць з дому, дзе прабываў (праўдападобна, гэта быў дом апостала Пятра ў Кафарнауме), і пачынае навучаць, седзячы на беразе мора. Калі натоўп павялічыўся, Ён пераходзіць у човен. Відавочна, што Езус хоча агарнуць сваім словам як мага больш слухачоў. Ён прагне, каб Ягонае навучанне дайшло да кожнага. Аднак мы дакладна ведаем, што не ўсе былі гатовыя прыняць Божае пасланне. Фарысеі чулі навуку Хрыста, аднак адмовіліся прыняць яго сэрцам. Яны не пакаяліся і, наадварот, пачалі складаць планы, як забіць Месію.

Горад Кафарнаум, дзе навучаў Хрыстус, да сённяшняга дня ляжыць у руінах і з'яўляецца толькі аб'ектам экскурсій для турыстаў. Людзі там не жывуць. Чаму так сталася? Успомнім словы Хрыста "І ты, Кафарнаум, што аж да неба будзеш узвышаны, аж да адхлані сыдзеш" (Лк 10,16). Езус шмат навучаў у гэтым горадзе, але людзі, захопленыя справамі дабрабыту, гандлю і росквіту, не захацелі звярнуць увагу на пасланне Божага Сына. І ў наш час існуе небяспека таго, што нешта іншае стане больш важным у жыцці і зойме месца Настаўніка. Спытаю ў сябе: "Як я стаўлюся да Божага слова? Ці перамяняе яно маё жыццё і ці мае хоць нейкую вагу, калі я прымаю важныя рашэнні, раблю планы і думаю пра будучыню? Птушкі, сонца і церні з сённяшняй прыпавесці ў Евангеллі могуць стаць небяспекай і для майго сэрца. Бог чакае ад мяне багатага ўраджаю, Ён хоча пабачыць плён Свайго слова. Ці з'яўляецца маё сэрца той ўрадлівай глебай, якая прыносіць плён?

**19 ліпеня 2020г.** ***Мц 13, 24-43***

Езус у Евангеллі распавядае пра Нябеснае Валадарства. Робіць Ён гэта, выкарыстоўваючы прыпавесці, каб мы маглі разважаць над гэтым і ў параўнаннях з зямной рэчаіснасцю зразумець самую сутнасць. Перш за ўсё Езус нагадвае нам, што Божае Валадарства развіваецца ў няпростых умовах. Існуе вораг – д'ябал, – які хоча дабіцца свайго: знішчыць пшаніцу, пасеяўшы пустазелле. Але Бог не спяшаецца вынішчаць тых, хто з'яўляецца пустазеллем, гэта значыць, грэшнікаў. Чаму? На думку св. Ісідора, менавіта такая стратэгія ў Бога, бо Ён жадае кожнаму даць шанец на пакаянне. Прыпавесць, над якой мы разважаем, запісана ў Евангеллі паводле св. Мацвея. А хто такі евангеліст Мацвей? У мінулым ён быў мытнікам і рабіў шмат дрэнных учынкаў. Калі б Божы суд наступіў імгненна, мы б сёння не чыталі Евангелле паводле св. Мацвея.

У прыпавесці пра гарчычнае зерне Езус заклікае нас да цярплівасці. Так, Божае Валадарства падобнае да вялікага дрэва, у якім знаходзяць жытло нябесныя птушкі. Але ад самога пачатку яно вельмі маленькае. Папа Бэнэдыкт XVI заклікае нас асцерагацца спакусы нецярплівасці і жадання атрымаць імгненны поспех у евангелізацыі. Тут гаворка ідзе таксама і пра пакору, калі мы Пану Богу пакідаем рашэнне, дзе і калі дазволіць Ягонаму Валадарству разрастацца. Нам жа трэба стаць Божай закваскай у сучасным свеце. Перамяняць свет сваёй святасцю, дабрынёй і любоўю.


Макет галілейскай лодкі часоў Хрыста

**26 ліпеня 2020г.** ***Мц 13, 44-52***

Валадарства Нябеснае падобнае да скарбу… Валадарства Нябеснае падобнае да купца, які шукае прыгожых пярлін… Гэтыя словы Езуса прыгадваюць нам, што да Божага Валадарства трэба ставіцца як да нечага вельмі каштоўнага. Божае навучанне, Касцёл, сакраманты – гэта не проста адзін з некалькіх фрагментаў грамадскага жыцця. Гэта скарб, гэта пярліна, вялікая каштоўнасць, якой трэба даражыць, шукаць і, знайшоўшы, клапаціцца, каб гэты скарб не прапаў.

Апосталы пакінулі ўсё і пайшлі за Хрыстом. Яны зразумелі, што Езус – гэта скарб. Аднак Месію слухалі натоўпы. Ці ўсе пайшлі за Ім? Ведаем, што не. У гэтым заключаецца свабода выбару. Бог не змушае нас быць з Ім. Ён толькі прапануе, Ён расказвае, Ён запрашае.

Вельмі вымоўны вобраз рыбнай лоўлі з трэцяй сённяшняй прыпавесці. У часы Хрыста на Галілейскім возеры рыбу лавілі не вудачкай. Часцей за ўсё выкарысоўвалі такі спосаб: плылі дзве вялікія лодкі, паміж якімі нацягвалася сетка і апускалася ў ваду. Гэта дазваляла лавіць рыбу ў прамысловых маштабах, каб яе можна было пазней прадаць і атрымаць прыбытак. Аднак такі спосаб азначаў, што ў сетку можа трапіць усё, што заўгодна: і рыба каштоўная, і нявартая продажу. Такі вобраз у прыпавесці Езус выкарыстоўвае, каб падкрэсліць яшчэ адну важную рысу Нябеснага Валадарства: да яго неабходна быць падрыхтаваным. У Божае Валадарства не патрапяць людзі, якім яно не патрэбнае і якія шукаюць шчасця не ў Богу, а ў часовых зямных задавальненнях.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***
*Віцебск*


Горад Кафарнаум


Гарчычнае зерне ў параўнанні з запалкай

# Можа, маеш пакліканне да святарства або да манаскага жыцця?

**кс. Артур Стопка**, пераклаў **кс. Аляксей Ляшко**, паводле матэрыялаў *pl.aleteia.org*

**Што з'яўляецца першым указаннем на пакліканне?**

"Хіба пайду ў кляштар". "А можа, я павінен стаць святаром?" Такія думкі паяўляюцца ў многіх хлопцаў і дзяўчат. Гэта можа быць голас паклікання, але гэта можа быць і простае жаданне пазбавіцца ад штодзённых праблем.

Тысячы чалавек прыходзілі да Езуса, каб слухаць Яго, каб паглядзець на знакі, якія Ён чыніў, і каб пад Яго ўплывам змяніць сваё жыццё. Але толькі некаторыя пачулі ад Яго непасрэдна скіраваныя словы "Ідзі за мной". Такім чынам Хрыстус клікаў для "асаблівых заданняў" у супольнасці Яго паслядоўнікаў. Ён гэта робіць і далей. Як пачуць і распазнаць Яго голас? Адкрыць, што Ён прамаўляе да мяне? Што зрабіць, каб не абмінуць Яго пакліканне? На што звярнуць увагу?

## 1 Няма адзінай схемы паклікання

У інтэрнэце шмат даведнікаў для кандыдатаў да святарства і кансэкраванага жыцця. Дастаткова ўвесці ў пошукавую сістэму запыт "як распазнаць пакліканне". І калі вы ўважліва паглядзіце, то заўважыце, што ў гэтай сферы няма нейкай схемы ці шаблону. Аднак, як заўважыў адзін святар, Езус не рабіў "набор", але да кожнага падыходзіў індывідуальна, клікаў па імені, запрашаў да вызначанай місіі.

Некаторыя з пакліканых цікавіліся Ім яшчэ раней (напрыклад, два вучні Яна Хрысціцеля). Іншыя, як напрыклад, Мацвей-мытнік, больш цікавіліся іншымі рэчамі. Былі і асобы, пакліканыя для канкрэтна вызначанай місіі, якія да Хрыста былі прыведзеныя іншымі. Напрыклад, Сымон-Пётр.

Гэтак жа адбываецца і сёння. Голас паклікання могуць пачуць і пабожныя каталікі, якія актыўна ўдзельнічаюць у жыцці Касцёла, але таксама і тыя, хто не вельмі часта практыкуе рэлігійнае жыццё. Бывае, што хто-небудзь з родных ці сяброў, а часам і незнаёмы чалавек кажа якое-небудзь слова, каторае змяшчае ў сабе заклік Хрыста "Ідзі за Мной".

Усіх, хто пайшоў услед за Езусам у адказ на Яго заклік, яднае адно і тое ж…

## 2 Ты гатовы змяніць сваё жыццё?

Евангелле неаднаразова апісвае сітуацыі, у якіх тыя, што пачулі заклік Езуса, адказваюць на яго неадкладна. Выразным знакам з іх боку з'яўляецца пакіданне іх папярэдняй дзейнасці і, перш за ўсё, перамена ладу жыцця, выкліканая накіраваннем яго да новай мэты, указанай Езусам. Спатканне з Ім становіцца пераломным момантам, якога яны больш-менш свядома чакалі, да якога яны рыхтаваліся. Яны жадаюць змяніць сваё жыццё, але не з-за сябе.

Калі гатоўнасці да радыкальнай змены жыцця няма, калі ёсць прывязанасць да розных справаў, звязаных са штодзённасцю, калі ёсць спробы паставіць умовы, то пакліканыя Хрыстом часцей за ўсё не могуць прыняць станоўчага рашэння. Яны адыходзяць сумныя, як багаты малады чалавек (Мк 10, 22), не гледзячы на тое, прынамсі, на іх думку, што маюць добрыя намеры.

## 3 Пашукай цішыні і размовы з ужо пакліканым

У шуме, які сёння напаўняе жыццё чалавека, немагчыма пачуць заклік Езуса. Больш за тое, можна памыліцца і палічыць за Яго голас штосьці іншае. Таму, з аднаго боку, неабходна цішыня, каб пераканацца, што гэта Хрыстус кліча. Але трэба таксама і шмат малітвы, непасрэднага спаткання з Езусам.

Часта мэтазгодна змяніць месца, напрыклад, паехаць на рэкалекцыі альбо ў іншае месца, напоўненае цішынёй. Як пісаў Адам Міцкевіч, "гучней, чым у размовах, Бог прамаўляе ў цішыні, і хто зробіць у сэрцы цішыню, адразу Яго пачуе".

Аднак размова таксама неабходная. Варта паразмаўляць з чалавекам, які пачуў голас паклікання і ўжо адказаў на яго, са святаром, законнай сястрой, манахам. Варта пытаць, шукаць, даведвацца, як выглядае іх жыццё.

## 4 Неабходнасць: малітва і Святое Пісанне

Перш за ўсё неабходная размова з Богам. Ён той, Хто дае пакліканне, таму неабходна ў Яго прасіць дапамогі ў распазнанні правільнага шляху. Варта надаваць больш часу малітве, арыентуючыся не толькі на размову, перапаўняючы Бога просьбамі і пытаннямі, але перш за ўсё на слуханне.

Сэнс у тым, каб выявіць і зразумець Божую волю для мяне, а не пераконваць Бога ў сваім бачанні будучыні.

Слухаючы голас Бога, трэба звярнуцца да Святога Пісання, бо яно змяшчае адказы на шматлікія пытанні і сумневы, якія датычацца паклікання. Варта засяродзіцца на гісторыях асобных людзей, якіх выбраў Бог. Напрыклад, жыццё і лёс апосталаў не толькі дае шмат інфармацыі для разважання, але і паказвае, як здзяйсняецца пакліканне Езусам, як яно развіваецца і што адбываецца далей.

## 5 Будзь адважным і гатовым да сюрпрызаў

Распазнанне паклікання патрабуе мужнасці. Можа адбыцца так, што, каб адказаць на заклік Хрыста, будзе трэба як святы Станіслаў Костка пайсці насуперак самым блізкім людзям, якіх вы любіце.

Часам здараецца, што хтосьці глыбока перакананы, што ён павінен стаць законнікам ці законніцай, як святая Брыгіда Шведская, якая з дзяцінства мела такі намер. Аднак яе пакліканне аказалася іншым. Хоць яна і заснавала кангрэгацыю, але яна ніколі не склала рэлігійных шлюбаў. Шмат гадоў яна была жонкай, нарадзіла восем дзяцей і ... аказала велізарны ўплыў на жыццё Касцёла.



Здараецца, што той, хто на працягу многіх гадоў (напрыклад, у парафіі ці ў нейкай іншай супольнасці) духоўна фарміруецца у пэўным тыпе духоўнасці, калі чуе голас паклікання, лічыць заканамерным ісці далей у гэтым кірунку. Аднак ў пэўны момант ён нечакана разумее, што Бог накіроўвае яе ці яго ў зусім іншым напрамку. Напрыклад, камусьці сфармаванаму праз рэдэмптарыстаў, Бог дае пакліканне ў кангрэгацыі салезіянаў ці езуітаў.

## 6 Першы паказчык паклікання: радасць

Адказваючы на пытанне, як можна даведацца пра сваё пакліканне ў сучасным свеце, Папа Францішак сказаў, што першым паказчыкам з'яўляецца радасць сустрэчы з Езусам.

"Сужэнства, кансэкраванае жыццё, святарства – кожнае пакліканне пачынаецца з сустрэчы з Езусам, Які дае нам радасць і новую надзею і вядзе нас, таксама праз выпрабаванні і цяжкасці, да больш поўнага спаткання з Ім і да поўнай радасці", – зазначыў Святы Айцец.

Пакліканне – гэта дар, які нельга заслужыць. Гэта дар не толькі для саміх пакліканых, але перш за ўсё для Касцёла. Таму, як падкрэсліў Папа Францішак, пакліканы "не гаспадар свайго паклікання, але распарадчык дару, які Бог даручыў яму на карысць усіх людзей".

Пакліканне адбываецца праз супольнасць, нараджаецца і развіваецца ў Касцёле, распазнаецца і падтрымліваецца Касцёлам. Адказам Касцёла на адкрыццё паклікання адным з яго ўдзельнікаў з'яўляецца фармацыя. Гаворка ідзе пра тое, каб пакліканне было плённым.

Той, хто паступае ў семінарыю альбо ўступае ў рэлігійную кангрэгацыю, у гэты момант не прымае рашэння на ўсё жыццё. Перад тым, як скласці вечныя манаскія шлюбы альбо прыняць пасвячэнні, Касцёл як супольнасць вернікаў дапаможа пакліканаму добра распазнаць сваё пакліканне і падрыхтуе да жыцця паводле яго.

# Ліст да семінарыста – 2

**Прывітанне, мой сябра-семінарыст!**

Пісала табе некалькі гадоў таму. Памятаеш пра крынічку, якая сумняваецца, ці патрэбныя яе рэсурсы акіяну? І пра патрабавальную лесвіцу святара, у якой дастаткова бачыць толькі першую прыступку – і давяраў Пану Богу. Ён падкажа, што рабіць на наступных узроўнях. Так-так, гэта мае словы. Спадзяюся, ты застаўся верным абранаму шляху і хутка атрымаеш першыя пасвячэнні. А я па-ранейшаму зацікаўлена менавіта ў тваім пакліканні і моцна жадаю, каб тваё святарскае жыццё было не толькі дасканалым і карысным людзям, але і пад'ёмным для цябе, каб ярмо тваё было прыемным, а цяжар твой лёгкім.

Упэўнена, што настаўнікі і духоўныя айцы з семінарыі добра цябе падрыхтавалі. Але ёсць рэчы, пра якія табе не скажа ні адзін мужчына, а да матчыных парадаў не прынята ставіцца сур'ёзна. Дык вось я вырашыла скарыстацца момантам, пакуль яшчэ магу так проста звярнуцца да цябе са старонак каталіцкага выдання, і сказаць тыя самыя так патрэбныя твайму далікатнаму пакліканню словы.

Таму да справы!

Спачатку, калі будзеш зусім яшчэ маладым святаром, пазбягай рэзкіх сцвярджэнняў і не спяшайся з высновамі. Будзь міласэрным да тваіх парафіянаў. Лепш чым казаць людзям, як ім жыць, скажы, дзеля чаго. Калі мне было дваццаць, і я не мела ні мужа, ні дзяцей, але ўважліва слухала тваіх будучых калег святароў, мне здавалася, што я ўсё разумею: і на якім месцы павінен быць Пан Бог, і як любіць мужа больш, чым дзяцей, і як дзяцей выхоўваць, і як ім перадаваць веру. Зараз жа ўсе мае тагачасныя перакананні не здаюцца мне настолькі відавочнымі.

Заўсёды сам рыхтуй свае казанні. Не карыстайся дапаможнікамі для святароў. Табе заўсёды будзе што сказаць людзям.

Не захапляйся псіхалогіяй. Бізнес-трэнераў, матыватараў і коучаў сёння хапае. Ты – святар, і можаш дзейнічаць з любові. Так ты не пазбегнеш памылак, але і атрымаеш каштоўны вопыт, дасягнуты не розумам, а сэрцам.

Будзь міласэрны да жанчын. Часта яны будуць чакаць ад цябе больш, чым ты можаш ім даць. Будзь уважлівы і цярплівы. Але не старайся дапамагчы больш, чым гэта патрэбна. Мы ў стане самі вырашыць нашы праблемы.

Не абавязкова заўсёды прасіць у імя Хрыста, прасі ад свайго імя. Так табе лягчэй адмовіць, але і прыемней дапамагчы.

Навучыся добра гатаваць. Ёсць толькі тры чалавекі, якія маглі б дагадзіць табе ў гэтай справе – жонка, маці і ты сам. Табе падыходзіць апошні варыянт. Сам даглядай за сваімі рэчамі і сачы за парадкам там, дзе жывеш. Гэта так жа важна, як рыхтаваць казанні і выслухоўваць людзей.

Цані людзей, якія не бачаць у табе пастыра або бачаць не толькі яго. Яны патрэбны табе не менш, чым ты ім.

Май захапленні, не звязаныя з рэлігіяй. Беражы сяброўнекатолікаў. Яны сябруюць з табой проста таму, што ты – гэта ты. І не завальвай іх парадамі па дасягненні Божага Валадарства тут, на зямлі. Надыдзе момант – самі спытаюць, самі будуць шукаць.

Патрабуй ад сябе. Будзь міласэрны і цярплівы да сябе.

І апошняе, мой юны сябра. Прыйдзе час – і паселіцца ў душы тваёй смутак, і туга па якімсьці іншым жыцці не будзе даваць спакою. Не ведаю, што параіць па гэтым пытанні. Магу сказаць толькі, што туга і смутак – гэта спадарожнікі абсалютна ўсіх людзей на зямлі. Мы можам займацца рознымі справамі, карыснымі і забаўляльнымі, мы можам быць патрэбнымі вялікай колькасці людзей або камусьці аднаму, хто без нас не можа жыць, але надыходзіць час – і мы застаёмся сам-насам з нашай тугой, з болем душы, з прагай Бога, Якога заўсёды будзе мала тут, на гэтай зямлі.

Я шмат сустракала людзей, але ніводнага без крыжа, без ахвяры. І вельмі часта, рознымі спосабамі ў ахвяру прыносіцца жыццё, такое каштоўнае і непаўторнае, адно-адзінае жыццё.

І яшчэ. Каб напісаць гэты ліст, я патрацілa тры дні свайго жыцця. Таксама каштоўнага, унікальнага і прызначанага зараз для іншай нецікавай і ахвярнай працы. І калі праз шмат гадоў прыйдзе да цябе старэнькая жанчына са сваімі "тыповымі" праблемамі, знайдзі для яе пятнаццаць хвілін, не адсылай на свой ютуб-канал і не абмяжоўвайся спасылкай на карысны сайт. Падбяры для яе патрэбныя словы.

Я ў цябе веру, мой будучы пастыр!

*Аксана Нядвецкая*, *Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**У гэтым нумары разам з намі ты даведаешся пра прарочыцу Дэвору, адзіную жанчыну, якая была Суддзёю ў Біблії, а таксама пра мужнага ізраільскага Суддзю Гедыёна.**

## заданне №1

Пра прарочыцу Дэвору і яе значэнне ў жыцці ізраільскага народа можаш прачытаць у кнізе Суддзей 4.

**Калі разгадаеш гэты рэбус, даведаешся як перакладаецца імя Дэвора.**




**АДКАЗ:** _ _ _ _ _

## заданне №2

У гэтым заданні пераблыталіся словы гімна, які Дэвора заспявала Госпаду. Дапамажы Пазнавайке прачытаць правільна словы гімна Дэворы. Правер сябе: **Кніга Суддзей 5, 31**

Так ворагі А сонца, што у сваёй!
няхай усе Госпадзе! ўзыходзіць
прападуць любіць будзе, моцы
Яго, хто Тваё, няхай як поўнай

___ _____ __________ ____
______ ____, ________! _ ___
______ ___, _____ ____, __
_____, ___ __________ _
______ ____ _____!

## заданне №3

За тое, што Гедыён змагаўся супраць Ваала ён атрымаў асаблівае прозвішча.

**Калі выканаеш гэтае заданне і размесціш літары па парадку, даведаешся прозвішча Гедыёна.**

2 - Е 8 - Р
48 - Л 4 - А 33 - В

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |
| 2 | 8 | 4 | 33 | 4 | 4 | 48 |

## заданне №4





Пра мужнага Гедыёна і аб тым як ен размаўляў з Богам можаш прачытаць у кнізе Суддзей 6-7

**На гэтым малюнку можаш убачыць як Гедыён разбурае ахвярнік Ваала. Знайдзі 7 адрозненняў на малюнках.**

## заданне №5

**Аб тым як Гедыён абраў сабе войска можаш прачытаць у кнізе Суддзяў 7.**

**Размалюй і распавядзі, што за падзея адбываецца на малюнку.**



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Васіль Быкаў і хрысціянства

**Якія асацыяцыі выклікае ў мяне чэрвень? Іх шмат: Сэрца Езуса, Святы Антоні, лета, экзамены, пілігрымка... і Васіль Быкаў. Чаму Быкаў?**

**■ с. Дар'я Галубкова OV**

Наш славуты зямляк нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна, а памёр 22 чэрвеня 2003 года ў Бараўлянах. Менавіта ў чэрвені, у гадавіны нараджэння ці смерці аўтара аповесці "Мёртвым не баліць", публікуецца найбольш газетных артыкулаў, сяброўскіх успамінаў, прысвечаных яму вершаў і добрых словаў. Сёлета і я вырашыла не застацца ўбаку і, аддаючы даніну памяці народнаму пісьменніку Беларусі, паразважаць над вобразам Бога і месцам хрысціянскай рэлігіі ў ягоных творах і выказваннях.

Васіль Быкаў лічыў, што рэлігія ўвогуле з'яўляецца адным з найважнейшых аспектаў у жыцці чалавека і яго светапогляду. Не адмаўляючы каштоўнасцяў іншых рэлігій, вядучую ролю, аднак, ён надаваў хрысціянству. Асабліва важны ўплыў хрысціянства аказала на беларускі народ, яго гісторыю і культурна-маральнае развіццё. У ролі найбольш адпаведнага веравызнання для Беларусі Быкаў бачыў грэка-каталіцтва і перажываў, што яно не можа набраць поўнай сілы. Дарэчы, у апошнія гады жыцця ён быў прыхільнікам менавіта грэка-каталіцкага веравызнання, абрад пахавання пісьменніка таксама быў праведзены грэка-каталіцкім святаром.

Трэба адзначыць, што Васіль Быкаў даволі крытычна ставіўся да Царквы (галоўным чынам, праваслаўнай) як да інстытуту. Хіба што галоўнай прычынай гэтаму паслужыла тое, што ў пераломным перыядзе "перабудовы", калі камуністычныя ўлады пачалі змяняць свае адносіны да рэлігіі, Быкаў бачыў у хрысціянстве адзін з падмуркаў будучага дэмакратычнага ладу. Аднак ён горка расчараваўся, пэўна, гэтак жа як і многія з народу ізраільскага калісьці расчараваліся ў Езусе Хрысце, у якім бачылі будучага Уладара, што знішчыць прыгнёт Рымскай імперыі.

Для Быкава хрысціянская рэлігія мае вартасць і значэнне перш за ўсё як носьбіт маральнасці. Хрысціянскую маральнасць ён бачыць як спрадвечную сістэму асноўных жыццёвых прынцыпаў, Творцам якой з'яўляецца Бог. Пісьменнік перакананы, што гэтыя маральныя прынцыпы змешчаны ў Біблії – галоўнай кнізе чалавецтва. Дарэчы, першы раз Быкаў пазнаёміўся са Святым Пісаннем толькі на пачатку 60-х гадоў, калі, знаходзячыся ў Рыме, набыў выданне на ўкраінскай мове.



Хоць савецкая цэнзура старанна вышуквала і выцінала з твораў Быкава згадкі пра Бога і хрысціянства, можна іх знайсці ў пазнейшых публікацыях і ў творах з узноўленымі купюрамі. Таксама пісьменнік часта ўзгадвае Бога і звяртаецца да Яго ў сваіх артыкулах і публічных выступленнях. На старонках ягоных твораў можна знайсці сцвярджэнні, што Бог з'яўляецца вялікай таямніцай, Уладаром Сусвету, Даўцам законаў прыроды, Стваральнікам чалавека, Панам ягонага лёсу, усябачным і справядлівым. Літаратурныя героі Быкава нярэдка думаюць ці гавораць пра Бога, звяртаюцца да Яго ў малітве, чытаюць Святое Пісанне. У пэўным сэнсе Васіль Быкаў нават пацярпеў за хрысціянскую веру: яго выказванні пра сувязь маральнасці з рэлігіяй і прызнанне Дэкалогу як маральнага Кодэксу паслужылі прычынай здзекаў і насмешак у цынічных атэістычных артыкулах І. Крывелева.

Быць хрысціянінам для Быкава азначае не толькі вызнаваць веру, але і дапамагаць бліжнім, асабліва бедным і абяздоленым. Менавіта вера ў Бога пабуджае чалавека да добрых учынкаў. У сваю чаргу, зло, гвалт і несправядлівасць у свеце з'яўляюцца вынікам маральнага ўпадку чалавека, яго непаслухмянасці Божаму закону.

У перакананні Васіля Быкава, адыход ад Бога вядзе да маральнай катастрофы не толькі асобнага чалавека, але і цэлай нацыі, краіны. Пацвярджэнне гэтаму пісьменнік знаходзіць, аглядаючыся на вопыт уласнай Бацькаўшчыны, калі рэлігія, называная "опіумам для народа", вынішчалася з грамадства, а Бог і Ягоны маральны закон былі прызнаныя непатрэбнымі чалавеку. Ва ўмовах камуністычнай рэчаіснасці ажыццяўлялася маральнае "знішчэнне" чалавечай асобы.

У апавяданні "Абязбожаны люд" Быкаў паказвае, як можа дэградаваць краіна, якая адвярнулася ад Бога і Касцёла, як паволі духоўны вакуум запаўняецца "замяняльнікамі" Бога: алкаголем, распустай, культам асобы. Таму пісьменнік падкрэслівае, што галоўнай духоўнай і маральнай апорай народа павінны быць традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці. Асабліва шчыра прагнуў ён іх адраджэння і развіцця ў родным беларускім краі.

Герой Васіля Быкава – гэта перш за ўсё чалавек перад абліччам маральнага выбару. І хаця гэта не заўжды відавочна, аднак адну з крыніц ацэнкі гэтага выбару пісьменнік бачыць у Божым Законе, аб'яўленым у Святым Пісанні. Няхай жа для ўсіх нас, дарагія чытачы, гэта будзе дадатковым заахвочваннем, каб адкрыць для сябе або пераасэнсаваць наноў творчасць нашага вялікага земляка, і, канешне, будаваць сваё жыццё на падмурку хрысціянскіх каштоўнасцяў.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Лёнгіна Астаноўка** *(Атокі)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Марыя Каліцкая** *(Каліты)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Зенона Алекснін** *(Браслаў)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Валянціна Марзенак** *(Паставы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Феліцыя Небышынец** *(Глівін)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Лубнеўская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Антаніна Главацкіх** *(Івацэвічы)*, **Феакціства Л.М.** *(Камарова)*, **Марыя Лекарэвіч** *(Ярава)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Анатоль і Аліна Пярхальскія** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце паведамленне пра паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2897

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 18.06.2020 г. у 12.51

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by


ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь